15 верасня 2017 | № 34 (548)

# Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144





Дзяжурны апакаліпсіс

стар. 9





# Засцерагальнік Вейшнорыя

## Выдуманая Мінабароны краіна стала адным з гарантаў бяспекі Беларусі



Сяргей ПУЛЬША

Вучэнні «Захад–2017», актыўная частка якіх пачалася 14 верасня, запомняцца беларусам як ніякія дагэтуль. Інтэрнэт-мем выдуманага Міністэрствам абароны верагоднага праціўніка — краіны пад назвай «Вейшнорыя» — аказаўся надзіва жывучым.

Звычайна такія мемы існуюць не больш за тыдзень і не выліваюцца ў афлайн. Узгадаем хаця б сакральную фразу Лукашэнкі «распранаціца і працаваць»: беларусы пафоткаліся агаленымі на працы — і ўсё.

З Вейшнорыяй — не так. Ушлыя камерсанты ўжо гандлююць праз сецiва «картамі вейшнорца» і вокладкамі пашпартоў з сімволікай прыдуманай краіны. А на фестывалі «Lidbeer» нехта нават узняў «вейшнорскі сцяг».

Такая трываласць міфічнай краіны дала падставу некаторым аналітыкам і каментатарам для перасцярогаў. Маўляў, Вейшнорыя — гэта «праект Крамля», каб падзяліць Беларусь і выбудаваць тут сепаратысцкія настроі. А ўсе, хто з такім захапленнем гуляецца ў Вейшнорыю, — ледзь не патэнцыйныя сепаратысты. Так што Вейшнорыя — справа небяспечная, якая можа «раздзярбаніць краіну».

Шчыра кажучы, чуць пра тое, што віртуальная дзяржава можа нейкім чынам выліцца ў сепаратысцкі рух, неяк крыху смешна. Па-першае, у нас недастаткова тэрыторыі і насельніцтва, каб узніклі рэальныя праекты адасаблення часткі краіны па нейкай прыкмеце. Па-другое, спрыяе цэласнасці гісторыя Беларусі. Тут, за выключэннем адзінкавых гістарычных інцыдэнтаў, утульна пачувалі сябе ўсе: каталікі і праваслаўныя, габрэі і палякі, мусульмане і руския. Гэта, бадай, і спаяла насельніцтва краю ў тое, што мы завём «беларусамі», і ў сапраўдную ўнітарную дзяржаву.

Мабыць, таму ў нас не прыжываюцца не тое што віртуальныя, а рэальныя сепаратысцкія рухі. Пасля 2014 года на аматараў «Віцебскай народнай рэспублікі» глядзелі як на блазнаў. Падчас «параду суверэнітэтаў» у пачатку 1990-х некаторыя насіліся з ідэяй Палескай Рэспублікі — дзе яны зараз? Нават трывалыя прыхільнікі ліцьвінства, актыўныя ў інтэрнэт-спрэчках, наўрад ці думаюць пра тое, каб вылучыць куточак краіны ў асобную дзяржаву. Прынамсі, тыя, з кім я стасаваўся, хочуць, каб уся Беларусь звалася «Літвою», а пра сепаратызм размовы не ідзе.

А некаторыя з тых, хто кажа пра «вейшнорскую небяспеку», нават забыліся пра свой удзел і ўхваленне іншага «сепаратысцкага руху».

Памятаеце ініцыятыву 1998 года да 80-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі па атрыманні «Грамадзянства БНР»? Тады слова «сепаратызм» яшчэ не ўвайшло ў палітычны лексікон, але рэальныя людзі запаўнялі рэальныя анкеты на атрыманне гэтага грамадзянства.

Зянон Пазьняк у інтэрв'ю «Нашай Ніве» ў 2002 годзе казаў, што «ў час масавых мерапрыемстваў заявы ў грамадзянства БНР падавалі адразу па дзве тысячы асобаў у дзень». А Вячаслаў Сіўчык, які падчас кампаніі кіраваў рэгістрацыйнай групай, запэўніваў, што да 1999 года на грамадзянства БНР было пададзена 15 тысяч заяваў.

Некаторыя «гарачыя галовы» прапаноўвалі нават усім грамадзянам БНР выехаць у асобна ўзяты раён (памятаю, пра Асіповіцкі) і стварыць там «анклаў Беларушчыны».




**Калі на вайсковых вучэннях частка грамадзян падтрымлівае «верагоднага ворага» — ёсць падстава занепакоенасці для любога палітыка**

Нават гэтая «сепаратысцкая ідэя» не прыжылася. А тут кажуць пра пагрозу віртуальнай Вейшнорыі...

Але ў гэтай віртуальнай краіны ёсць вельмі карысная рэальная каштоўнасць.

Ніхто не будзе адмаўляць тое, што Аляксандр Рыгоравіч — палітык-папуліст, які адчувае настроі народу. Тое, што Вейшнорыя вылезла ў сецiва, і тым больш у рэал, не можа яго не хваляваць. Увогуле, сітуацыя, калі на вайсковых вучэннях частка (і даволі вялікая) грамадзян падтрымлівае не ўласныя войскі, а «верагоднага ворага» — гэта ўжо падстава занепакоенасці для любога палітыка.

Вейшнорыя паказвае, кагорэальна асцерагаецца актыўнае беларускае грамадства. І гэта не «Лубенія» і «Весбарыя», пад якімі маюцца на ўвазе заходнія суседзі Беларусі.

Менавіта гэтая грамадская думка, якая ўвасобілася ў «грамадзянства Вейшнорыі», не дапусціць таго, што расійскія войскі, як мяркуюць некаторыя, не сыдуць з краіны пасля вучэнняў і асядуць у Сінявокай, стварыўшы тут вайсковыя базы.

Такое ў нядаўняй гісторыі ўжо было. Не далей як тры гады таму не толькі Беларусь была занепакоена стварэннем на тэрыторыі краіны расійскай авіябазы. Гэтаму пытанню незалежныя СМІ, вайсковыя эксперты, палітычныя рухі і грамадскія арганізацыі надавалі шмат увагі, і ў выніку стварылі адпаведную грамадскую думку. Адчуўшы негатыўныя настроі грамадства, Лукашэнка вымушана заявіў, што стварэнне авіябазы з ім ніхто не ўзгадняў і ніякіх дамоўленасцяў на гэты конт няма, не было і быць не магло. Нягледзячы на тое, што расійскія самалёты ўжо атабарыліся на аэрадроме ў Баранавічах, а падрыхтоўка па стварэнні базы ішла аж з 2009 года.

Праект «Вейшнорыя» таксама стварае адпаведны грамадскі настрой, датычны вучэнняў «Захад–2017» і іх магчымых наступстваў. І ў пэўнай ступені сапраўды з'яўляецца засцерагальнікам незалежнасці краіны. Вейшнорыя супраць замежнай вайсковай прысутнасці на тэрыторыі Беларусі.

15 верасня 2017 | № 34 (548) Новы Час

# Ці будзе мова на ўпакоўцы?

**Змаганне за беларускую мову на ўпакоўцы прадукцыі беларускіх вытворцаў працягваецца. Супраць — Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю.**

Пра гэта напісала ў Фэйсбуку Алена Анісім.

«Ледзь не паўдня правяла на пасяджэнні працоўнай групы, якая рыхтуе Закон аб правах спажыўцоў да другога чытання. Спадзяюся, што будзе яшчэ пасяджэнне, бо сітуацыя пакуль канчаткова не вызначаная датычна выкарыстання дзяржаўных моў. Фармулёўка, на якой настойвае і старшыня нашай камісіі І.А. Марзалюк, і якую ў дадзеных абставінах падтрымліваю і я, такая, як у агульных артыкулах цяперашняга Закона аб мовах: «На беларускай і (або) рускай мовах». МАРТ настойвае на «беларускай або рускай мовах». Пры гэтым не хавае, што лабіруе інтарэсы бізнесу», — піша Анісім.

«Але ж Закон аб правах спажыўцоў, а не абароны ад выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы прадстаўнікамі асобных бізнес-кампаній», — зазначае яна.

«Але трэба было бачыць, як прадстаўніца МАРТа негатыўна ставіцца да (на яе думку) абавязковага выкарыстання беларускай мовы. Мне было прыемна, што многія дэпутаты з прысутных падтрымліваюць нашу пазіцыю ў дачыненні да дзяржаўнай беларускай мовы і падчас гэтага абмеркавання, і ў цэлым», — дзеліцца ўражаннямі дэпутатка.

# У смерці ніхто не вінаваты

Зінаіда ЦІМОШАК

**Галіна Шаравар, маці загінулага ў Жодзінскай турме Ігара Барбашынскага, 12 верасня атрымала са Следчага камітэта (упраўленне па Мінскай вобласці) паведамленне аб спыненні папярэдняга расследавання.**

У паведамленні гаворыцца, што папярэдняе расследаванне па факту неналежнага выканання медыцынскімі работнікамі турмы №8 і Жодзінскай горбальніцы сваіх прафесійных абавязкаў, што па неасцярожнасці прывяло да смерці Івана Барбашынскага, спынена **«в связи с отсутствием в деянии состава преступления, на основании п. 2. ч.1 ст. 29 УПК Республики Беларусь».**

Маці можа азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы, таксама па яе просьбе можа быць выдадзена копія пастановы аб спыненні папярэдняга расследавання. Таксама следчы па асабліва важных справах, падпалкоўнік юстыцыі А. Канцавы выказаў спачуванне Галіне Шаравар і Івану Барбашынскаму ў сувязі са стратай блізкага чалавека.

Галіна Шаравар, якая столькі месяцаў спадзявалася на пакаранне віноўнікаў смерці сына, не хавае сваіх слёз:

— Вось так. Здаровы малады чалавек загінуў у турме да суда, і ніхто не вінаваты.

Галіна Паўлаўна гаворыць, што іншага адказу пасля сваёй сустрэчы са следчым яна ўжо і не чакала.

— Ужо па яго паводзінах і характару пытанняў да мяне я зразумела, што сапраўдных вінаватых не будуць знойдзеныя, — распавяла жанчына.

— Неяк дзіўна атрымліваецца: мужчына ў росквіце жыццёвых сіл нечакана памірае, трапіўшы ў папраўчую ўстанову «Турма №8», а пасля ў Жодзінскую ЦГБ, а вінаватых няма, — лічыць доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухаў. — Па законе і логіцы, за жыццё і бяспеку чалавека, заключанага пад варту, адказвае адміністрацыя ўстановы. Папярэдняе следства павінна было даць адказ: хто вінаваты ў смерці Ігара Барбашынскага. Устанавіць гэта проста, нават не патрэбна выходзіць за сцены турмы. Іншы вынік можа азначаць толькі адно: утойванне злачынства і здзяйсненне дзеяля гэтага новага злачынства (арт. 427 КК «Службовая падробка» ці арт.428 КК «Службовая халатнасць»).

Ва ўсякім выпадку, маці Ігара Барбашынскага трэба дамагацца праўды па факце смерці сына і абскардзіць пастанову аб спыненні крымінальнай справы пракурору Мінскай вобласці, — выказаў сваё меркаванне Пастухоў.

Галіна Шаравар хоча ведаць праўду пра смерць свайго сына і спадзяецца на юрыдычную дапамогу праваабаронцаў у вывучэнні матэрыялаў справы і абскарджанні пастановы аб спыненні справы.

Нагадаем, Ігар Барбашынскі памёр у СІЗА 20 верасня 2016 года. 39-гадовы Ігар, маёр у адстаўцы, займаўся спортам, да свайго арышту ніколі не скардзіўся на здароўе. Але ў апошнія дні жніўня ў СІЗА скардзіўся на кароткачасовыя страты свядомасці пры аглядзе ў турэмнага лекара.

У сярэдзіне верасня Барбашынскі падчас медычнага агляду паскардзіўся ўрачу-тэрапеўту на значнае пагаршэнне здароўя. Турэмны лекар адзначыў у хворага стан сярэдняй цяжкасці. Аднак не змог вызначыцца з дыягназам.

Позна ўвечары 16 верасня, стан Барбашынскага яшчэ больш пагоршыўся, дзяжурны фельчар турэмнай медчасці зафіксаваў далейшае паніжэнне артэрыяльнага ціску, высокую тэмпературу (вышэй за 39). Ён выклікаў хуткую дапамогу і накіраваў хворага ў Жодзінскую цэнтральную гарадскую бальніцу з дыягназам: «парушэнне мазгавога кровазвароту».

Там Барбашынскі знаходзіўся трое сутак, з 16 па 19 верасня. Яго абследавалі больш грунтоўна і вызначылі, што прычынай пагаршэння здароўя з'яўляецца энцэфаліт неўдакладненай этыялогіі. Ігара вярнулі назад, у турэмную лякарню. А раніцай 20 верасня ён памёр.

Між тым на целе Барбашынскага былі выяўлены шматлікія цялесныя пашкоджанні: кровападцёкі на грудной клетцы і на нагах. Гэтыя пашкоджанні ўтварыліся ад дзеяння цвёрдага тупога прадмета і мелі тэрмін даўніны каля 3 сутак. Колькасць кровападцёкаў — 17 — адпавядае колькасці кантактаў з траўміруючым прадметам. Таксама былі выяўлены рубцы на галаве, якія ўзніклі ад зажыўлення глыбокіх ран месячнай даўніны, меркавана ў перыяд знаходжання яго пад арыштам.

# І так дадому прыходзілі ўвечары

Вераніка БЯЛОВА

**Тры гісторыі пра тое, як бацькі спрабавалі вярнуць пачатак урокаў на восем раніцы.**

Страсці вакол пачатку школьных заняткаў не сціхаюць. Бацькі наракаюць на блытаніну: цяпер вучням даводзіцца хадзіць у школу да рознага часу: каб дзеці вярталіся дадому крыху раней, у навучальных установах перад урокамі ставяць факультатывы і класныя гадзіны. Прычым Мінадукацыі не бачыць у гэтым нічога дрэннага, хоць яшчэ зусім нядаўна рабіла ўпор на неабходнасць лішняй гадзіны сну для дзяцей і спасылалася на разнастайныя санітарна-гігіенічныя нормы.

Больш за тое, у Мінадукацыі заяўляюць, што перанос заняткаў — гэта рашэнне саміх школ, прынятае сумесна з бацькамі. «Салідарнасць» знайшла бацькоў, якія паспрабавалі данесці сваю пазіцыю да школьнага кіраўніцтва, і высветліла, што з гэтага атрымалася.

### Пасіўная незадаволенасць

Школа №66, як і большасць сталічных школ, у гэтым навучальным годзе перанесла пачатак заняткаў на 9 раніцы. Раней урокі тут пачыналіся ў 8.30, і ўжо тады гэта выклікала незадаволенасць бацькоў.

— Наша школа раней была з музычным ухілам, дый цяпер многія дзеці акрамя звычайных урокаў наведваюць музычныя ў якасці факультатываў, — распавядае маці адной з вучаніц. — Дзіця прыходзіць дадому вельмі позна: пасля звычайных урокаў то музыка, то хор, то сальфеджыа. Натуральна, нам было зручней, каб урокі пачыналіся ў 8 раніцы, пра што мы неаднаразова казалі класнай. У адказ яна толькі разводзіла рукамі: такое распараджэнне кіраўніцтва школы.

Зрэшты, ваяваць з-за нейкай паловы гадзіны бацькі ў той час не захацелі. Калі ж стала зразумела, што з гэтага навучальнага года заняткі могуць перанесці на яшчэ больш позні час, яны сур'ёзна занепакоіліся.

— Уявіце, як старшакласнікам: у іх жа па 7–8 урокаў на дзень, плюс яшчэ 2–3 урокі музычных! Часу зрабіць хатняе заданне не хапае, не кажучы ўжо пра нейкія секцыі, — абураецца жанчына. — І так дадому ўвечары прыходзілі.

Да апошняга бацькі спадзяваліся, што здаровы сэнс пераможа — і школа пакіне хаця б ранейшы час 8.30. Але перад пачаткам навучальнага года іх чакала расчараванне.

— Ніякіх размоў з гэтай нагоды з бацькамі не было. Хлусня чыстай вады, што школы прымалі рашэнне сумесна з намі. Усё лета ў школе толькі пацыскалі плячыма: маўляў, чаго заўчасна каламуціць ваду, нічога пакуль не вядома, трэба пачакаць. Ну вось, пачакалі. Цяпер маем тое, што маем, — уздыхае суразмоўца.

Падняць гэтае пытанне бацькі паспрабавалі ўжо на сходзе ў пачатку года.

— Мы сказалі класнай, што хочам напісаць хадайніцтва дырэктару аб пераносе заняткаў, на што тая стала нас угаворваць гэтага не рабіць. Казала, што мы гэтым усё роўна нічога не даб'емся. Маўляў, самі ведаеце, дзе прымалася рашэнне, а вінаватай буду я, — распавядае суразмоўца.

Як і ў большасці іншых школ раніцу, якая вызвалілася для сну, тут жа загрузілі класнымі і інфармацыйнымі гадзінамі.

### Актыўная пазіцыя

А вось у сталічнай гімназіі №18 бацькі не сталі чакаць навучальнага года і загадзя паклапаціліся пра час пачатку ўрокаў.

— Мы напісалі хадайніцтва на імя кіраўніцтва школы з просьбай пачынаць заняткі ў 8 раніцы. Матывавалі загружанасцю і неабходнасцю наведваць дадатковыя гурткі і секцыі, — распавядае мама адной з вучаніц.

Аднак і іх чакала расчараванне — гімназія з пачатку года перайшла на графік з 9 раніцы.

— На сходзе класная распавяла, што з-за нашага хадайніцтва яна мела праблемы. Кіраўніцтва паставіла ёй у віну, што яна не правяла належнай растлумачальнай працы з бацькамі. У выніку і праблему не вырашылі, і ні ў чым не вінаватага чалавека падставілі, — скрушна распавядае жанчына.

Праблему позняга вяртання дзяцей і тут вырашылі пераносам факультатываў і пазакласных гадзін на самую раніцу.

— Гэта нейкі жах. Бацькі, у якіх двое і больш дзяцей-школьнікаў, проста вар'яюць. Аднаго ў адзін час прывесці, другога — у іншы, і кожны дзень па-рознаму. Гэта так яны ў міністэрстве жыццё дзецям і бацькам спрасцілі? — задаецца пытаннем суразмоўца.

### Пераможная гісторыя

Але вядомая гісторыя і пра тое, як школа, што пачала працаваць з 9 раніцы, усё ж перакроіла свой графік. Праўда, для гэтага спатрэбілася ўмяшанне міністра адукацыі і залішняя прадпрымальнасць кіраўніцтва навучальнай установы. Гаворка ідзе пра школу ў Барысаве, дзе за гадзіну ранішняй прадлёнкі з бацькоў прыдумалі браць грошы.

«Дык вось гэтая школа, па якой узніклі праблемы, працуе ў дзве змены. Дык навошта трэба было пераводзіць яе на 9 раніцы? Мы ж дамовіліся, што тыя, хто працуе ў дзве змены, могуць пачынаць заняткі ў 8.30. Гэта проста недапрацоўка мясцовай адміністрацыі, таму мы гэтыя пытанні будзем кантраляваць і ўважліва адсочваць», — заявіў Ігар Карпенка ў інтэрв'ю TUT.BY.

Цяпер у згаданай школе ўрокі будуць пачынацца ў 8.15. Але зусім не таму, што бацькі пра гэта прасілі.

А між тым у бацькоў назапасіліся пытанні да Міністэрства адукацыі, на якія яны хацелі б атрымаць адказы:

— Якім яшчэ спосабам можна дагрукацца да кіраўніцтва школ, калі ўсе звароты бацькоў ігнаруюцца?

— Чаму для дзяцей у школах, якія працуюць у адну змену, гадзіна сну неабходная па санітарна-гігіенічных нормах, а для дзяцей са школ з дзвюма зменамі гэтыя нормы можна не ўлічваць?

— Ці не ўшчамляюцца правы школьнікаў, якія з 8 раніцы вымушаныя чакаць пачатку ўрокаў, і сыходзіць пры гэтым дадому ў той жа час, што і дзеці, якія прыйшлі да 9.00?

— Ці стане здароўе дзяцей мацнейшым, калі з-за дадатковых заняткаў іх рэжым пастаянна парушаецца, і ўставаць школьнікам даводзіцца кожны дзень у розны час?

— Калі ўжо скончацца тэхнічныя эксперыменты ў сістэме адукацыі, а пачнецца работа па паляпшэнні ўзроўню ведаў?

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Сістэма парадоксаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ведаеце, што мяне заўсёды здзіўляе ў людзях? Тое, як працуе іх памяць. Тое, што было 25 гадоў таму, згадваюць з настальгіяй: «Які харошы быў СССР!» А вось тое, што было гады таму два-тры — таямніца пад покрывам ночы.**

Вось, напрыклад, злётаў Аляксандр Рыгоравіч у Індыю. Як звычайна, прывёз мемарандум. Мемарандум пра пастаўкі ў Індыю чатырох мільёнаў тон калійных угнаенняў у 2018–2023 гадах. Добрая, падаецца, справа — ледзьве не прарыў, праўда? Пра гэта з захапленнем разважала па БТ кіраўніца Беларускай калійнай кампаніі Алена Кудравец.

Але, па-першае, мемарандум — гэта не кантракт. Памятаеце, як усе забыліся на Будапешцкі мемарандум пасля ўварвання войскаў Расіі ва Украіну? Мемарандум з Індыяй не такі маштабны, і калі пра яго забудуцца, то пераляканыя хіба толькі пара-тройка спецыялістаў.

Што да аб'ёмаў, то 4 мільёны тон — гэта крута. Але гэтыя мільёны расцягнутыя на пяць гадоў, і ў сярэднім у год атрымліваецца 800 тысяч тон. Гэта таксама было б добра, калі б не было так сумна. Таму што ў лістападзе 2015 года інтэрнэт-часопіс «Ежедневник» пісаў, цытую: «У студзені-жніўні 2015 года нашай краінай пастаўлена ў Індыю 751,2 тысячы тон хлорыстага калію». То бок, аб'ём, які мы пастаўлялі два гады таму за шэсць месяцаў, зараз нам прапанавана пастаўляць за год. Ну і дзе тут прарыў? Ніякага прарыву, апроч высновы, што наш экспарт калійных угнаенняў у Індыю за два гады зваліўся роўненька ўдвая.

Але ёсць і аптымістычныя навіны, як ні дзіўна, са свету крыміналу. Двое небаракаў спрабавалі скрасці з прыватнага прадпрыемства ўнікальны беларускі рэцэпт вытворчасці фарбаў для дарожнага пакрыцця.

За рэцэпт жыхар Мінска быў гатовы заплаціць пяць тысяч долараў. Ён скантактаваўся з двума працоўнымі гэтага прадпрыемства, якія звярнуліся да начальніка цэха па вытворчасці фарбаў і прапанавалі «раскрыць таямніцу залатога ключыка», якая складае камерцыйную тайну. Той, бачна, не пагадзіўся, і зараз трое аматараў фарбы абвінавачваюцца па артыкуле «камерцыйны шпіянаж».

Па словах аператыўнікаў, затрыманы мог быць толькі пасярэднікам, пры гэтым «замовілі» тэхналагічную карту кампаніі з Расіі. Фарба, якую вырабляюць беларусы, сёння лідар на рынку дарожных работ па якасці і цане, таму і ідзе паляванне за рэцэптам.

Аптымістычная навіна таму, што ў нас, аказваецца, яшчэ ёсць што красці. Песімістычная навіна — не ўмеюць нашы людзі шпіёніць. Калі б «жыхар Мінску» без пасярэднікаў паставіў бы «начальніку цэха па вытворчасці фарбаў» пару пляшак і паразмаўляў бы па душах — я ўпэўнены, той бы і без аплаты ўсё распавёў. А за пяць тысяч долараў — яшчэ б і запісаў.

Таму што пяць тысяч на дарозе не валяюцца. У Пінску трое настаўнікаў за здачу іспытаў і залікаў бралі са студэнтаў прадуктамі — на агульную суму ўсяго ў 268 рублёў 11 капеек. Атрымалі па тры-чатыры гады — з адтэрміноўкай адбыцця пакарання, але з канфіскацыяй маёмасці. А тут — аж пяць тысяч, і не рублёў…

Сапраўды, навошта нам тая фарба? Усё роўна дарожны збор ідзе невядома куды. На дарогі скардзяцца ўсе. Нават пад Мінскам, у напаўэлітным пасёлку Гатава некаторыя мясцовыя жыхары памянялі свае легкавікі на джыпы — бо інакш праехаць па тых «дарогах» немагчыма, асабліва пасля дажджу. Чыноўнікі, якія ператварылі Гатава з 2010 года ў аграгарадок, тлумачаць — на дарогу грошай не хапіла. І кажуць людзям, каб… будавалі дарогу за свае грошы!

А як жа двайны падатак? Як акцыз на бензін, што замяніў у свой час дарожны збор? І як узноўлены дарожны збор — і ўтой жа час не адменены акцыз на бензін? Аўтаамататары два разы плацяць за адны і тыя ж дарогі, а іх месцамі ўсё роўна няма.

І, канешне ж, дадаўць у гэтыя спрэчкі паліва нашы любыя расійска-беларускія вучэнні «Захад–2017». Таму што вайсковая тэхніка будзе ездзіць па беларускіх дарогах, пераважна вясковых. Там і без таго дарогі не вельмі добрыя, а пасля праходу танкаў ды артылерыі іх не будзе ўвогуле. І зноў мы будзем чуць скаргі на дарогі, зноў будуць запыты: «Дзе наш дарожны збор?» А ў выніку — дарожны збор з'елі танкі.

Цікава, пры складанні каштарысу вучэнняў хто-небудзь улічваў гэтую графу выдаткаў — на аднаўленне дарог? Ці падлічваў нехта страчаную выгаду жыхароў бліжэйшых да палігонаў вёсак, якім забаранілі хадзіць у мясцовыя лясы па грыбы? А грыбы сёлета так і пруць!

Яшчэ з прыемнага. Па падліках Белстата, у жніўні 2017 года цэны ў Беларусі знізіліся на 0,8%, у ліпені яны таксама падалі — на сімвалічныя 0,1%. Адзін эканамічны блогер у Фэйсбуку назваў гэта «гістарычнай падзеяй». «Справа ў тым, што дэфляцыі два месяцы запар у Беларусі не было. Ні разу. З 1991 года. Больш за тое, нават у двух асобных месяцах не было ні разу з 91 года. Аднак…» — напісаў Dim Iva.

Але ў стужцы навінаў побач з допісам гэтага блогера — безліч фотаздымкаў грыбоў, садавіны і бульбы, вырашчаных нашымі грамадзянамі на сваіх лецішчах. І нешта мне падказвае, што цэны ў Беларусі падаюць не таму, што ў нас эканоміка ўзрастае, а таму, што людзі прадукты папросту не набываюць. Па-першае, самі ўсё вырасцілі, і працягваюць збіраць ураджай, а па-другое, папросту няма за што іх набываць. Таму што заробак, нібыта, расце… А вось такі паказчык, як «рэальныя грашовыя даходы насельніцтва» — той жа заробак, але з вылікам падаткаў, збораў і з улікам інфляцыі — працягвае падаць…

І, нарэшце, цікавая навіна з-за бугра. Еўрапейскі саюз выдзеліць 120 мільёнаў еўра на стварэнне сеткі бясплатных кропак Wi-Fi на ўсёй тэрыторыі. Тэрміналы бесправаднога інтэрнэту павінны з'явіцца ў 6–8 тысячах еўрапейскіх населеных пунктаў, у прыватнасці ў парках, бальніцах, музеях, школах, а таксама ў грамадскім транспарце. За прыняцце праграмы «wifi4eu» у аўторак, 12 верасня, прагаласаваў Еўрапарламент на пасяджэнні ў Страсбургу.

Мэта праграмы — ахапіць інтэрнэтам перш за ўсё маланаселеныя рэгіёны. Пры гэтым выкарыстанне бясплатнага інтэрнэту для грамадзян будзе максімальна простым. Дастаткова будзе толькі адзін раз зарэгістравацца — і затым карыстацца кропкамі «wifi4eu» па ўсім ЕС.

Па планах, тэрміналы бесправаднога інтэрнэту ў рамках праграмы пачнуць працаваць у 2018 годзе. І гэта тое, што кожны можа «памацаць рукамі». А не статыстыка заробку, і не інфляцыя.

**0,8 % — на столькі цэны знізіліся ў жніўні. Зніжэнне працягваецца другі месяц запар, што дало падставы казаць пра «гістарычную падзею» — дэфляцыі два месяцы запар, і ўвогуле два месяцы ў Беларусі не было ні разу з 1991 года**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ганна Бахціна

**Кваліфікацыйная камісія Мінюста падчас пазачарговай атэстацыі адвакатаў прызнала Ганну Бахціну, якая мае 13 гадоў пракурорскага і 25 — адвакацкага стажу, «недастаткова кваліфікаванай».**



Ёй пагражае выключэнне з Мінскай гарадской калегіі адвакатаў і, адпаведна, пазбаўленне права займацца адвакацкай дзейнасцю.

Насамрэч шмат хто лічыць такое рашэнне палітычна матываваным. Ганна Бахціна абараняла розных людзей, у тым ліку і абвінавачаных па шматлікіх «палітычных» справах. Сярод апошніх яе падабаронных быў Мірaслаў Лазоўскі — адзін з асноўных фігурантаў «справы патрыётаў».

«Вядома, я звязваю гэта (пазбаўленне адвакацкай ліцэнзіі) з абаронай Міраслава Лазоўскага. І з тым, што ў 2006 годзе я прадстаўляла інтарэсы Саюза пісьменнікаў, Бураўкіна, Глевіча, Пятровіча. Я абараняла Эніру Браніцкую, Ірыну Халіп, Іллю Валовіка, Эдуарда Пальчыса. Звязваю такое рашэнне толькі з гэтым — і ні з чым больш», — кажа Ганна Бахціна.

Зараз адвакат збіраецца абскардзіць рашэнне. «Я — прафесіянал. І буду змагацца», — кажа яна.

У падтрымку Бахцінай выказаліся шмат грамадскіх арганізацый, сярод якіх Саюз беларускіх пісьменнікаў, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і іншыя.

## Ганна Канапацкая

**Дэпутатка ад АГП паспрабавала правесці ў памяшканні Палаты прадстаўнікоў прэс-канферэнцыю па зменах у дэкрэт №3.**



Аднак апазіцыйным палітыкам, якія павінны былі ўзяць удзел у прэс-канферэнцыі, адмовілі ў доступе ў парламенцкі прэс-цэнтр. У выніку мерапрыемства прайшло ў гатэлі «Манастырскі», пасля чаго Канапацкая адна прэзентавала альтэрнатыўныя дакументы ў Палаце прадстаўнікоў.

Дэкрэт №3 абавязвае грамадзян Беларусі, якія стала пражываюць на тэрыторыі краіны, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, што не ўдзельнічалі ў фінансаванні дзяржаўных расходаў або ўдзельнічалі ў такім фінансаванні менш 183 каляндарных дзён у годзе, выплачваць збор у 20 базавых велічынь. Інакш ім пагражае штраф або адміністрацыйны арышт. Дэкрэт выклікаў пратэсты грамадзян, пік якіх прыйшоўся на вясну гэтага года.

## Аляксандр Глеб

**Беларускі паўабаронца вырашыў «прыгожа завяршыць кар'еру», але яму не далі. І з-за гэтага ўзняўся гвалт.**



У інтэрв'ю СМІ Глеб распавёў, што прасіўся ў БАТЭ згуляць у Лізе Еўропы ў матчы з «Арсеналам» «на любых умовах, нават бясплатна». «Я заўсёды адгукаўся на прапанову дапамагчы барысаўчанам у Лізе чэмпіёнаў. У жніўні гэтага года прапановы ад БАТЭ не паступіла, я ім таксама не тэлефанаваў. Але ўсё змянілася пасля лёсавання, калі адным з супернікаў апынуўся «Арсенал». Вядома, я адразу патэлефанаваў Анатолю Анатольевічу (Капскаму — кіраўніку БАТЭ) і папрасіўся ў БАТЭ на любых умовах, нават бясплатна… Але рашэнне клуба агучыў мне Захарчанка (намеснік кіраўніка БАТЭ). Ён патэлефанаваў і сказаў: «Камандзе твае паслугі не патрабуюцца». На гэтым размова была скончаная», — сказаў Глеб у эфіры «PRO Sport. Вынікі тыдня».

Глеб, — гэта, канешне, Глеб, і можа крыўдзіцца як заўгодна. Але «ламаць каманду», прымаючы ў яе аднаго, хай і славутага гульца, дзеля таго, каб той «прыгожа завяршыў кар'еру»? Нават бясплатна? Глебу неабходна было трэніравацца з камандай і мець пэўную практыку падрыхтоўкі ў калектыве. І тады б у яго і быў бы шанец на выхад на поле і на гэтае «прыгожае завяршэнне кар'еры».

# Што паказвае беларускі моладзевы барометр?

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Гэта дзіўнае, нават містычнае супадзенне. 20 гадоў таму, 6 верасня 1997 года, у Мінску прайшоў устаноўчы Сойм грамадска-палітычнай арганізацыі «Малады фронт», найбольш радыкальнай апазіцыйнай моладзевай арганізацыі. І 15 гадоў таму, якраз 6 верасня 2002 года, на ўстаноўчым сходзе быў створаны Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ) — праўладная арганізацыя, якая абвясціла сябе пераемніцай камсамолу.**




Абедзве арганізацыя з'яўляюцца яскрава палітычнымі, якія змагаюцца за дамінаванне ў моладзевым асяроддзі. І гэта супадзенне дае падставу паразважаць пра палітычныя настроі і арыентацыі беларускай моладзі.

Ва ўсе часы моладзь была барометрам грамадскіх тэндэнцый, паказчыкам таго, у якім кірунку ідуць працэсы сацыяльнага развіцця краіны. Яна хутчэй рэагуе на новыя ідэі, прыстасоўваецца да новых з'яваў грамадскага жыцця.

Таму пытанне стаіць больш шырока: што паказвае беларускі барометр? Якія трэнды нас чакаюць? Ці адрозніваюцца неяк беларускія маладзёны ад сваіх аднагодкаў у іншых краінах Еўропы?

Калі Аляксандр Лукашэнка прыйшоў да ўлады, то ў асяроддзі незалежных экспертаў было шмат меркаванняў наконт таго, што час працуе супраць яго. Маўляў, пакаленні мяняюцца, і калі на змену людзям, якія выйшлі з СССР, прыйдзе моладзь, то электарат Лукашэнкі пачне звужацца, у выніку чаго ў яго не будзе палітычнай будучыні.

Але, насамрэч, усё аказалася зусім не так.

Грамадска-палітычныя настроі ў моладзевым асяроддзі даволі супярэчлівыя. З аднаго боку, паводле шматлікіх сацыялагічных апытанняў, сярод моладзі значна больш распаўсюджаны дэмакратычныя, праеўрапейскія, рынкавыя каштоўнасці, калі параўноўваць з усім насельніцтвам. Але чым больш сталымі становяцца гэтыя людзі, тым больш такія настроі знікаюць. Высветлілася, што фактычна грамадства ў ідэалагічным, каштоўнасным, палітычным сэнсе аднаўляе само сябе.

Класічны прыклад — студэнты. Ва ўсіх краінах студэнцтва — гэта самая пратэстная, неспакойная, бунтарская, «прасунутая» частка грамадства, носьбіт навейшых ідэйных плыняў, стылёвых павадзін. Студэнцкае вальнадумства — адна з найслаўнейшых традыцый еўрапейскіх універсітэтаў. І актыўная грамадзянская пазіцыя — адзін з элементаў еўрапейскага мыслення.

Беларускія студэнты вонкава мала адрозніваюцца ад сваіх замежных калег. Яны жывуць у новай інфармацыйнай прасторы, сацыяльных сетках, ведаюць англійскую мову, падарожнічаюць па свеце. Але гэта слаба ўплывае на ўспрынянне імі еўрапейскіх каштоўнасцяў. У палітычным сэнсе беларускія студэнты — самая паслухмяная, кіруемая, канфармісцкая частка грамадства. У выбарчых акругах, дзе знаходзяцца студэнцкія інтэрнаты, — самы высокі працэнт датэрміновага галасавання. Маладзёны без супраціву масава ўступаюць у БРСМ. Апазіцыйныя моладзевыя арганізацыі і рухі застаюцца маргінальнымі. Ідэя свабоды не надта натхняе моладзь. То бок, еўрапейская традыцыя, трапляючы на нашу глебу, аўтаматычна ператвараецца ў славутую беларускую «талерантнасць».

Чаму так атрымліваецца? Вядома, што каштоўнасці — даволі кансерватыўная рэч. Яны перадаюцца ад пакалення да пакалення. Тут шмат залежыць ад стану грамадства, дзяржаўнай палітыкі. За кароткі дэмакратычны перыяд пачатку 1990-х гадоў не паспела з'явіцца, кажучы рускай мовай, «непоротое» пакаленне.

Аляксандр Лукашэнка кіруе Беларуссю ўжо 23 гады. За гэты час у краіне вырасла новае пакаленне, якое нічога іншага, акрамя аўтарытарнай сістэмы, не бачыла. Уладам удалося ў значнай ступені інтэграваць моладзь у створаную ў краіне сацыяльную мадэль.

Галоўнай функцыяй сістэмы адукацыі, школ і ўніверсітэтаў Беларусі з'яўляецца не атрыманне якасных ведаў, не фарміраванне творчай асобы, не падрыхтоўка крэатыўных і таленавітых маладых людзей. Гэтая задача — другасная. Не выпадкова якасць адукацыі ў краіне рэзка ўпала.

Напрыклад, у 2010 годзе цэнтралізаванае тэставанне выпускнікоў школ паказала вельмі сумныя вынікі. Сярэднія балы па фізіцы склалі 18,1, па матэматыцы — 21,76 з 100. Заўважце, гэта «двойкі» нават па пяцібальнай сістэме, а па дзесяцібальнай — гэта практычна нуль. Як кажа прэзідэнт, ніжэй за плінтус. Варта звярнуць увагу, што самыя слабыя вучні, якія не збіраліся паступаць у ВНУ, у тэставанні не ўдзельнічалі. Пасля гэтага Міністэрства адукацыі моцна спрасціла тэсты, таму цяпер вынікі тэставання не такія катастрафічныя.

**Асноўнай функцыяй сістэмы адукацыі ў нас з'яўляецца нейтралізацыя моладзевай актыўнасці, выхаванне палітычнай лаяльнасці. Школа і ўніверсітэты заклікаваны вырасціць не грамадзян, а падданых**




А асноўнай функцыяй сістэмы адукацыі ў нас з'яўляецца нейтралізацыя моладзевай актыўнасці, выхаванне палітычнай лаяльнасці, забеспячэнне паслухмянасці. Школа і ўніверсітэты перш за ўсё заклікаваны вырасціць не грамадзян, а падданых. Галоўным прадметам ва ўніверсітэтах стаў курс «Ідэалогія беларускай дзяржавы». У ВНУ занадта разумных і актыўных выкладчыкаў і студэнтаў выключаюць. Дырэктара школы ці рэктара ўніверсітэта хутчэй пакараюць не за дрэнную якасць адукацыі, і нават не за хуліганскія ўчынкі іх выхаванцаў, а за ўдзел вучняў ці студэнтаў у нейкай апазіцыйнай арганізацыі ці акцыі.

У гэтым сэнсе вельмі паказальнымі былі мерапрыемства пад назвай «Рэспубліканскі педсавет» (які прайшоў у канцы жніўня), выступ там кіраўніка дзяржавы і адлюстраваны ім вобраз школы. Для вучняў, а таксама настаўнікаў было прапанавана ўвесці форму (альбо «лаянкавае» слова дрэс-код), «каб да 1 верасня дзеці былі аднолькавыя». Яшчэ Лукашэнка выказаў незадаволенасць, што вучні не носяць піянерскія гальштукі і значкі БРСМ. Паколькі ў школе не хапае дысцыпліны, кіраўнік Беларусі запатрабаваў ад міністра МУС да гэтай справы «міліцыю падключыць, каб дырэктару школы, настаўніку, класнаму кіраўніку дапамагчы». Увогуле, для кіраўніка дзяржавы ідэал школы — гэта вялікая казарма. Засталося навучыць хадзіць строем.

Затым Лукашэнка выклаў свае ўяўленні пра вышэйшую адукацыю: «Ну навошта пяць гадоў вучыцца? Я па сабе ведаю, што там пяць гадоў рабіць няма чаго. За тры гады можна дашліфаваць чалавека, калі праз тэхнікумы і каледжы, або прафтэхвучэльні, дзе ён ужо папрацаваў на вытворчасці. Тры гады дастаткова для атрымання вышэйшай адукацыі». Прычым, на думку кіраўніка краіны, палову тэрміну навучання павінна складаць практыка на вытворчасці. Каб будучы аграном грунтоўна пахадзіў па гною, тады будзе выдатным спецыялістам.

Аляксандр Лукашэнка неаднаразова заяўляў, што ўлада мае намер абапірацца на тры структуры ў грамадстве: мясцовыя Саветы, Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі і Федэрацыю прафсаюзаў. БРСМ з'яўляецца вузлавым звяном у палітыцы кантролю дзяржавы над моладдзю. Ён стаў часткай уладнай вертыкалі. У арганізацыю ўбухалі немалыя бюджэтныя сродкі. Сябрам БРСМ прадастаўлены льготы ў сферы сэрвісу і адпачынку. Інакш кажучы, адбываецца элементарны падкуп моладзі ў абмен на лаяльнасць.

Але ці ўдалося БРСМ сфарміраваць ідэйных прыхільнікаў існага рэжыму? Ці можна лічыць большасць беларускай моладзі лукашыстамі?

Адназначна, не. Відавочна, што самая масавая праўпрэзідэнцкая моладзевая арганізацыя — гэта прыгожы муляж, і не больш за тое. Яна так і не стала для маладога пакалення базавым інстытутам сацыяльнага даверу. Народжаны з чэрава дзяржавы, БРСМ атрымаў невылечную радавую траўму, якая дыягнастуецца як казёншчына і фармалізм. БРСМ смяротна сумны, як быў смяротна сумны камсамол брэжнеўскага разліву. І гэтую першапачатковую недасканаласць немагчыма выправіць ніякімі льготамі і фінансавымі ўліваннямі. Можа таму і невыпадкова галоўным аргументам у ідэалагічнай працы з моладдзю з'яўляецца сіла. Не сіла перакананні, а грубая рэпрэсіўная сіла дзяржаўнай машыны.

Тое, што Аляксандр Лукашэнка лічыць сваёй грамадскай апорай, на самай справе ёсць калос на гліняных нагах. І калі сітуацыя, як кажа прэзідэнт, «хіснецца», уся гэтая «апора» хутка рассыплецца.

Дарэчы, і ў савецкія часы камсамол быў самым слабым стаўпом камуністычнай сістэмы. У разгар гарбачоўскай перабудовы на мяжы 1980–1990-х гадоў першымі пабеглі з-пад кантролю КПСС камсамольскія важакі, таму што больш тонка адчувалі настроі моладзі.

Таму беларускія маладзёны — хутчэй не лукашысты, а пафігісты. Палітыкай не цікавяцца, займаюцца сваім прыватным жыццём. Уласна, як і большасць насельніцтва.

Але, на жаль, з пафігізму не вырасце дэмакратычная Беларусь. І гэта сумна.



# Аляксей Сутуга: Самае жахлівае, калі я не застану смерць тырана…

Мікалай ДЗЯДОК

**Аляксей Сутуга (мянушка Сакрат) — расійскі палітзняволены-антыфашыст, які адбыў амаль чатыры з паловай гады ў зняволенні за бойку з ультраправымі фанатамі ў Маскве. Сам ён кажа, што сапраўднай прычынай яго арышту і асуджэння была палітычная актыўнасць.**

За кратамі Аляксей прайшоў амаль усе колы турэмнага пекла: штрафны ізалятар (ШІЗА), памяшканне камернага тыпу (ПКТ), і нават тыя, аналагаў якіх у Беларусі не існуе: гэтак званыя «строгія ўмовы ўтрымання» (СУУ) і адзінае памяшканне камернага тыпу (АПКТ). У красавіку ён выйшаў на волю. У Беларусь Аляксей прыязджаў для ўдзелу ў Дні салідарнасці з палітзняволенымі-анархістамі, а заадно адказаў на пытанні «Новага Часу».

***— У СМІ ты стаў вядомы галоўным чынам як антыфашыст. Наколькі ведаю, вулічны антыфашызм быў для цябе адным з асноўных відаў дзейнасці. Як бы ты ахарактарызаваў сітуацыю з неанацызмам у Расіі да твайго зняволення і зараз?***

— Па-першае, хачу сказаць, што я антыфашыст таму, што я анархіст. Антыфашысцкай дзейнасцю я займаўся, сыходзячы са сваіх палітычных перакананняў. Мне нецікава было займацца рэчамі, якія не датычныя палітыкі і вулічнай субкультуры, да якой я належу з дзяцінства. У мой час, калі я хадзіў на панк-канцэрты, было жорсткае супрацьстаянне з правымі на вуліцах. Бо толькі ў маім горадзе (Аляксей родам з Іркуцку. — М.Д.) было некалькі груповак вулічных нацыстаў, якія заміналі развіццю панк-рок сцэны, яны захапілі ўсе: у любой моладзевай субкультуры былі людзі з правымі расісцкімі поглядамі, і нам прыхадзілася выцiскаць іх, здабываць сваё месца пад сонцам. І таму было жорсткае супрацьстаянне — бо яны дзейнічаюць сыходзячы са сваіх ідэй, а іх ідэя — гэта ідэя смерці, ідэя вайны, і таму яны разумеюць толькі сілу. І таму мы пачалі развіваць з імі фізічнае супрацьстаянне. Таму я і сеў. У першы раз, у другі раз… Першы раз я адсядзеў у Бутырцы 1 год і 2 месяцы. А другі раз мне далі 3 гады і 1 месяц: калі ў 2014 годзе я вярнуўся з Майдана (некалькі разоў туды ездзіў).

Што тычыцца зменаў у Расіі, то я заўсёды лічыў, што Расія — фашысцкая дзяржава. Усё маё юнацтва прайшло пры валадаранні Пуціна. Пуцін прыйшоў да ўлады ў 2000-м годзе. Мне тады было 14 гадоў. І вось мне 31, у наступным годзе — выбары, і ніхто — ніхто! — у Расіі не сумняваецца, што ён застанецца пры ўладзе. Нават вядомыя публічныя апазіцыянеры выказваюцца аб гэтым. Навальнаму забаранілі балатавацца ў прэзідэнты, пасадзілі ўсіх радыкальных нацыяналістаў, якія знаходзяцца ў апазіцыі рэжыму, каб яны не разгойдвалі абстаноўку. Прыціснулі журналістаў, дый нас (хаця нас — антыфа і анархаў — увесь час саджаюць). Усё трымаюць пад кантролем, падчышчаюць, каб была карцінка.

***— Сістэма любіць ціснуць на асуджаных праз іх родных. Як твае родныя прайшлі гэтае выпрабаванне?***

— Я ж з Сібіры. Усе мае продкі не проста так там апынуліся. Іх яшчэ ў царскі час саслалі па розных прычынах. Два маіх прадзеда былі рэпрэсаваныя як «кулакі». Аднаго расстралялі, другі адсядзеў пяць гадоў. Мой дзед адсядзеў год у ЛТП і потым быў пазбаўлены партыйнага білету. Таму ў маёй сям'і спакойна ставяцца да гэтага, без усялякага шоку.

Натуральна, маім бацькам не спадабалася, што я трапіў у турму, але панікі не было. Я адчуў вельмі моцную падтрымку, а маці за час майго зняволення стала праваабаронцай. Яе ведаюць вельмі многія анархісты (мне здаецца, яна і сама стала анархісткай). Яна мае ў анархісцкім і праваабарончым асяроддзі нашмат большую вагу, чым я зараз. Часам указвае мне на такія недахопы, якія я дакладна не чакаў пачуць ад сваёй маці: можа мне ў дакор паставіць, што я не адпісаў чалавеку па нейкім пытанні, хаця даўно абяцаў, што не пайшоў на суд да паплечніка — забыўся. Мае бацькі разумеюць, што мы жывём у Расіі, разумеюць, чым я займаюся. Дарэчы, я ніколі ад іх гэтага не хаваў, каб потым не было непаразумення: стараўся тлумачыць, што я раблю.

***— Супраць цябе ў турме выкарысталі мноства дысцыплінарных практык. У чым прычына? Ты падтрымліваў крымінальную субкультуру? Ваяваў з адміністрацыяй?***

— Так, я адкрыта казаў, што я падтрымліваю крымінальную субкультуру — так званае «агульнае» (традыцыі ўзаемнай дапамогі і выручкі сярод зняволеных. — М.Д.). Што дрэннага ў гэтым? Але на тое, што мяне прасавалі, працаваў цэлы комплекс прычын. Мяне хацелі ізаляваць ад агульнай арыштанцкай масы. Хаця я не нейкі крымінальны аўтарытэт, я не частка гэтага свету, я проста падтрымліваў «агульнае». Але, відаць, было нейкае паведамленне з Масквы, што я добры агітатар, што я экстрэміст, і магу паўплываць на арыштанцкія масы. Такія праблемы ім не трэба. Альбо, што я вазьму мабільны тэлефон і пачну выкладваць фатаграфіі таго, як усё дрэнна ў лагеры. Гэта скандал, праваабаронцы… Таму мяне проста ізалявалі, кантралявалі ўсё мае жыццё, 24 гадзіны на суткі за мной назіралі.

***— Ці ёсць у расійскіх зняволеных меркаванне, нейкі стэрэатып наконт беларускіх турмаў?***

— Яны ведаюць, што ў Беларусі няма злодзеяў у законе. Ведаюць, што ўсе лагеры «чырвоныя». Яны ведаюць, што Лукашэнка «навёў парадак». Як заўсёды, у расійскага зэка ў галаве вельмі шмат супярэчнасцяў. З аднаго боку, крымінальнага свету не існуе ў Беларусі, з іншага — «бацька парадак навёў». Усе мараць аб Сталіне. А «бацька» да яго вельмі блізкі. А некаторыя нават наогул не ведаюць, што адбываецца ў Беларусі.

***— Ці шмат сяброў засталося з табой пасля зняволення? Ці былі тыя хто адышоў, ці, можа, здрадзіў?***

— Так, былі здрады ад людзей, ад якіх я гэтага зусім не чакаў. А некаторыя мае паплечнікі наадварот пасталелі, пакуль я сядзеў, заняліся добрымі праектамі, якімі мы даўно хацелі заняцца. Многія адышлі — вырашылі зрабіць кар'еру, сям'ю, але я ведаю, што яны калісьці вернуцца.

***— Зняволенне цябе змяніла?***

— Так, я адчуваю вельмі моцныя змены. Па-першае, я навучыўся чакаць. У турме самае цяжкае — ты ўвесь час чагосьці чакаеш. Чакаеш ранку, сняданку, ліста, новую кнігу, адваката, суда, прысуду, чакаеш, калі цябе з суда адвязуць у турму. Чакаеш, калі прыбіральня вызваліцца. У выніку: чакаеш-чакаеш-чакаеш, калі ж цябе ўрэшце вызваляць. Час — гэта такая рэч, якую ты не можаш кантраляваць. Але ты можаш зразумець, што гэта такое і перастаць турбавацца, спакойна працягваць жыццё, займацца справамі, якія табе падабаюцца, і размяркоўваць час. Пачынаеш разумець, што многае ты не кантралюеш.

Я пачаў па-іншаму ставіцца да людзей. Бачыць іх, пэўна… Магчыма, праз паўгода ў мяне гэта пройдзе, але ў турме ты сядзіш з чалавекам, вывучваеш яго звычкі да дробязяў. Калі нейкі чалавек заходзіць, разумееш, ці сядзеў ён раней у турме, ці першаход. Ці з іншай хаты паднялі. Ты з першых секунд разумееш, хто перад табой стаіць. І калі ён ужо пачынае казаць, ты бачыш, хлусіць ён ці не. Я бачу людзей, слухаю іх і разумею. Цікавае такое пачуццё.



Што самае дзіўнае — я стаў больш цярпімым да іншых. У тым плане, што я стаў разумець, што ўсе розныя, і нам трэба неяк выжываць і жыць разам. Гэта вельмі парадаксальна.

Я дакладна застаўся такім жа ідэйным, якім і быў. Можа, зараз меней актыўны, чым раней, — папросту пакуль не бачу сэнсу ў тым, чым я раней займаўся, і шукаю новыя формы барацьбы. Праектаў пэўных пакуль няма.

***— На адрас палітычных актывістаў часта кажуць, што ім трэба «пасталець», завесці сям'ю, зарабляць грошы. Чаму б табе не стаць, як усе?***

— Калі ласка, займайцеся сям'ёй, займайцеся працай, зарабляйце грошы! Але я лічу, што трэба знаходзіць час і для палітычнай актыўнасці. Не трэба быць нейкім мега-актывістам: удзень хадзіць на мітынгі, увечары пісаць артыкулы, а ноччу маляваць графіці. Не трэба займацца ўсім. У цябе ёсць нейкія рэчы, якія цябе цікавяць у руху, бачыш, што яны ў цябе добра атрымліваюцца: займайся, развівай іх, прыцягвай новых людзей. І ў цябе будзе знаходзіцца час на ўсе: і на працу, і на сям'ю. Я лічу, што ў кожнага чалавека мусіць быць нейкая палітычная пазіцыя. Бо ён — частка грамадства, і ён мусіць бачыць, што адбываецца з яго краінай, быць яе часткай.

***— А ў цябе ёсць сям'я?***

— У мяне ёсць сын Нестар — я яго назваў у гонар Нестара Іванавіча Махно. У мяне была жонка, украінка, але мы скасавалі шлюб. Зраза я, на жаль, вельмі рэдка бачуся з сынам.

***— Што ты лічыш галоўным у сваім жыцці на сёння?***

— Я зразумеў, што для мяне зараз самае галоўнае, амаль сакральнае — гэта веды. Я і так кнігі любіў, але ў турме яны для мяне сталі проста выратаваннем. Дзякуючы ім я не з'ехаў з глузду, я не атупеў. Я адчуваў на высокім ўзроўні, што такое свет, якія працэсы ў ім адбываюцца, і што я ў іх удзельнічаю нягледзячы на тое, што я сяджу ў чатырох сценах. Таму самае каштоўнае для мяне — гэта веды.

Самае для мяне жахлівае — гэта калі я ў сваім жыцці не паўдзельнічаю ў сапраўднай рэвалюцыі і не змагу матэрыялізаваць хаця б частку сваіх ідэалаў. Калі я не застану смерць тырана і змены ў сваёй краіне. Вось гэта самае жахлівае.

З'язджаць я не хачу, бо гэта мая краіна. Няма такога філасофскага параходу, на якога мяне б пасадзілі — і я ўплыў. Я бачу сваё жыццё, свой лёс менавіта з Расіяй: я хачу разбурыць менавіта тую дзяржаву, у якой нарадзіўся! Мне падабаецца Расія, нягледзячы на тое, што я не называю сябе рускім чалавекам і не хачу асацыяваць сябе з рускай нацыяй. Я ў першую чаргу анархіст — і ўсё. У мяне і раней не было вельмі моцнай прывязкі да нацыянальнай ідэнтычнасці, а пабываўшы ў турме, нагледзеўшыся на людзей з розных краін СНД, нагледзеўшыся на рускіх, — я зразумеў, што я дакладна не рускі.

***P.S.:*** *На наступны дзень пасля гэтага інтэрв'ю Аляксей Сутуга быў затрыманы ў Баранавічах падчас сваёй лекцыі для мясцовай моладзі. У яго і яго маскоўскіх сяброў канфіскаваны мабільныя тэлефоны, відэакамера, анархісцкая літаратура і аўтамабіль. На загад ГУБАЗ на іх былі складзеныя пратаколы па арт. 17.11 КаАП: «распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў».*

# Нельга дазваляць страху перад ракам кіраваць нашым жыццём

**Напярэдадні другой гадавіны смерці нашага галоўнага рэдактара Аляксея Караля, яго дачка Ірына Віданава паразмаўляла з доктарам Элэйн Лім з Сінгапурскага нацыянальнага анкалагічнага цэнтра. Яна лячыла Аляксея Караля ў чэрвені-верасні 2015 года і зрабіла ўсё, каб яго апошнія дні прайшлі годна. Элэйн Лім з'яўляецца практыкуючым доктарам і адным з вядучых спецыялістаў па раку лёгкіх, праводзіць лабараторныя даследаванні ў Інстытуце генома Сінгапура і Інстытуце малекулярнай і клеткавай біялогіі, а таксама ўдзельнічае ў клінічных эксперыментах. Чытачам «Новага Часу» яна распавядае пра рэвалюцыйныя прарывы ў лячэнні ракавых захворванняў, адносіны паміж доктарам і пацыентам, а таксама пра тое, ці варта жыць у страху перад ракам, і што рабіць, калі пастаўлены страшны дыягназ.**



*— Я памятаю, як, прааналізаваўшы вынікі ПЭТ-сканавання, якія ўказвалі на метастазы, вы паведамілі нам, што не зможаце вылечыць бацьку, але зробіце ўсё магчымае, каб павялічыць працяглаць і якасць ягонага жыцця. Гэта былі шокавыя навіны, аднак вельмі хутка ў Сінгапуры мы зразумелі, наколькі гэта было каштоўным. Што разумецца пад якасцю жыцця ў дачыненні да ракавага пацыента?*

— Пад якасцю жыцця мы разумеем максімальна магчымае змяншэнне трывожных сімптомаў, такіх, як боль, дыхавіца ці кашаль. Калі ў лёгкіх збіраецца вадкасць, то можна ўставіць трубку, каб вывесці вадкасць, і пацыенту становіцца лягчэй дыхаць. Ці, напрыклад, з дапамогай лячэння мы дамагаемся змяншэння пухліны, якая ціснe на нерв і выклікае дыскамфорт. Існуюць апіятныя прэпараты, якія ўсмоктваюцца праз скуру, а значыць, пацыенту не трэба глытаць лішнія таблеткі. Мы імкнёмся забяспечыць пацыентам годнае жыццё, у якім ёсць месца не толькі пакутам, але і радасцям.

*— Бацька быў гісторыкам і рэдактарам, дапытлівым ад прыроды. Ён хацеў зразумець, што з ім адбываецца, і задаваў вам і вашым студэнтам безліч пытанняў. Вы заўжды вельмі па-чалавечы адгукаліся і адказвалі на ўсе яго і нашы пытанні ды знаходзілі зразумелыя фармулёўкі. Паміж вамі, доктарам, і бацькам, вашым пацыентам, не было бар'еру. Вы ні разу не сказалі, што нешта было занадта складаным, каб патлумачыць неадмыслоўцу. Бацька меў права ведаць. І гэта, бадай, было самым вялікім адрозненнем паміж нашым досведам у Беларусі і ў Сінгапуры. Гэта дапамагло пераадольваць страх і падтрымлівала дух, нягледзячы на тое, што рак не адступаў. Якую ролю адыгрывае камунікацыя паміж доктарам і пацыентам у іх агульным змаганні з хваробай?*

— Я за тое, каб паведамляць дыягназ. Гэта дазваляе растлумачыць схему лячэння і падрыхтаваць пацыента да таго, што яго чакае. Я хачу, каб мае пацыенты спадзяваліся на лепшае, але былі гатовымі да горшага. Таму камунікацыя павінна быць адкрытай.

Аднак будучы адкрытым, інфарматыўным і зразумелым, доктар мусіць адчуваць свайго пацыента і не зламіць ягоны дух. Мастацтва быць доктарам заключаецца і ў тым, каб знайсці тонкую мяжу, як распавесці пацыенту пра сітуацыю рэалістычна, але пры гэтым падтрымаць і падбадзёрыць яго.



Доктар Элэйм Лім

> На працягу 25 гадоў у Беларусі назіраецца рост захворванняў на рак. Кожны год у Беларусі рэгіструюць больш за 50 тысяч новых выпадкаў раку. Анкапаталогіі займаюць другое месца сярод усіх прычын смерці ў Беларусі (14,7% выпадкаў).
>
> Негатыўная тэндэнцыя набірае абароты: прыкладна ў 30 краінах свету рак займае ўжо першае месца. Хоць медыкі адзначаюць, што ў паказчыках захворвання Беларусь саступае Германіі, Вялікабрытаніі, Нідэрландам, Францыі, а таксама бліжэйшым суседзям — Латвіі і Літве.
>
> Але смяротнасць ад гэтага захворвання паступова зніжаецца. Па словах беларускіх медыкаў, гэта адбываецца дзякуючы даследаванням. ДНК лячэнне хворым падбіраецца індывідуальна. І ў канчатковым выніку гэта мае вельмі вялікае значэнне. Важна і тое, што ў Беларусі праводзіцца скрынінг злаякасных новаўтварэнняў (раку прастаты, малочнай залозы, шыйкі маткі, раку тоўстай кішкі), асноўная мэта якога — выяўленне захворванняў на ранніх стадыях. Таксама поспех у лячэнні прыносяць малаінвазіўныя хірургічныя ўмяшанні пры пухлінах невялікага памеру.

*— У апошні час было даволі шмат навінаў пра дасягненні ў лячэнні ракавых захворванняў, асабліва ў галіне імунатэрапіі. Патлумачце, калі ласка, як гэта працуе і чым гэты метад адрозніваецца ад традыцыйных?*

— Імунатэрапія знаходзіцца ў цэнтры ўвагі анколагаў ва ўсім свеце і выклікае надзвычай высокую цікаўнасць.

Медычныя даследаванні дапамаглі нам значна лепш разумець рак і як яго лячыць. Выяўленне спецыфічных малекулярных змяненняў раку і выпрацоўка лячэння, скіраванага на гэтыя малекулярныя змяненні, сталі сапраўднай рэвалюцыяй у тэрапіі раку, у тым ліку раку лёгкіх. Аднак высокая малекулярная разнастайнасць раку з'яўляецца сур'ёзным выклікам для таргетнага лячэння.

У імунатэрапіі зусім іншы прынцып. Тут выкарыстоўваецца натуральная перавага імуннай сістэмы, а менавіта яе здольнасць вызначаць і атакаваць ракавыя клеткі, незалежна ад іх малекулярнай разнастайнасці.

Традыцыйная хіміятэрапія і прамянёвая тэрапія, умоўна кажучы, менш пераборлівыя, што тычыцца наступстваў іх уздзеяння на клеткі. Яны адначасова забіваюць як ракавыя («дрэнныя»), так і здаровыя («добрыя») клеткі. Гэта выклікае шырока вядомыя пабочныя эфекты, такія, як млоснасць, ваніты, выпадзенне валасоў і г.д. Малекулярна-таргетныя лекі і імунатэрапія таксама маюць пабочныя эфекты, але яны іншыя па сваёй прыродзе і, як правіла, менш знясільваюць пацыентаў.

Імунатэрапія ўключае ў сябе некалькі аспектаў, у тым ліку монаклanальныя антыцелы, вакцыны і T-клеткі, сканструяваныя з хімернымі рэцэптарамі антыгенаў. Найбольшы інтарэс і спадзяванні звязаны з так званай «імуннай блакадай кантрольных кропак» (immune checkpoint blockade). Гэта там, дзе пухлінныя клеткі блакуюць імунныя клеткі праз узаемадзеянне адпаведных малекул клеткавай паверхні. Імунная блакада кантрольных кропак разбурае гэтае ўзаемадзеянне, і імунная сістэма працягвае працаваць у звычайным рэжыме, то бок сама знаходзіць і ліквідуе пухлінныя клеткі.

***— Колькі прыблізна часу праходзіць ад моманту вынаходніцтва новых прэпаратаў ад раку да іх з'яўлення на рынку і шырокага выкарыстання?***

— Звычайна каля 12–15 гадоў. Перспектыўным лекам, што прайшлі даклінічныя выпрабаванні, спачатку трэба надаць форму, у якой яны могуць ужывацца чалавекам, паводле такіх параметраў, як растваральнасць, біядаступнасць, а таксама шэрагу іншых. Затым адбываюцца тры фазы клінічных выпрабаванняў, падчас якіх тэсціруецца бяспека лекаў (пабочныя эфекты), разлічваюцца дозы, вымяраецца эфектыўнасць (уплыў лекаў на памер пухлін) і выжывальнасць пацыентаў. Потым лекі зацвярджаюцца нацыянальнымі органамі аховы здароўя.

Зараз пацыентаў для клінічных выпрабаванняў сталі адбіраць на аснове іх малекулярных профіляў. У лабараторыях таксама ўдасканальваюцца метады скрынінгу і адбору патэнцыйных лекаў. Усё гэта дазваляе скараціць час паміж вынаходніцтвам новых прэпаратаў і іх запускам у вытворчасць ды шырокае выкарыстанне.

**Паколькі медыцынская навука развіваецца вельмі хутка, у ракавых пацыентаў ужо зараз значна больш шансаў жыць максімальна набліжаным да нармальнага жыццём. Калі трымаеш у галаве такі падыход да праблемы, то пачынаеш пачувацца больш упэўнена**






Слоган: «Пацыенты знаходзяцца ў цэнтры ўсяго, што мы робім»

***— Дзякуючы дасягненням навукі і медыцыны, змяншаецца смяротнасць і павялічваецца працягласць жыцця ракавых пацыентаў. Але пры гэтым статыстыка ўказвае на агульны рост анкалагічных захворванняў. Чаму так адбываецца?***

— Тут два пытанні: ранняя дыягностыка і прагрэс у лячэнні на больш позніх стадыях. Для шэрагу ракавых захворванняў існуюць эфектыўныя метады скрынінгу насельніцтва. Напрыклад, для раку шыйкі маткі — мазок, раку малочнай залозы — мамаграфія, раку тоўстай кішкі — калонаскапія. Гэтыя віды раку паддаюцца ранняй дыягностыцы і ранняму ўмяшальніцтву — адпаведна, і вынікі тут выдатныя.

Аднак далёка не для ўсіх відаў раку існуюць такія тэсты і метады дыягностыкі.

Гледзячы на іншы канец спектру ракавых захворванняў ужо на больш позніх стадыях, мы пачынаем усведамляць, што неабавязкова цалкам выкараняць пухліну, каб павялічыць працягласць жыцця і значна мінімізаваць сімптомы. У гэтым дапамагаюць малекулярна-таргетныя прэпараты і імунатэрапія. Тут сапраўды здзейснены прарыў і ёсць чаму радавацца, аднак трэба памятаць, што не кожны пацыент станоўча рэагуе на гэтыя прэпараты, а таму нашы чаканні павінны быць утаймаваныя.

***— Гэта новая рэчаіснасць мае двайны эфект. З аднаго боку, многім яна дае надзею, што рак — гэта не смяротны вырак. З іншага — частка людзей пачынае ўспрымаць гэту хваробу як нешта непазбежнае і жыве ў страху. Якім, на ваш погляд, павінна быць здаровае стаўленне да раку? Як захаваць баланс паміж усведамленнем рызыкаў і асалодай ад жыцця?***

— Да гэтага часу мы дакладна не ведаем, чаму адны людзі хварэюць на рак, а іншыя — не. Аднак нельга дазваляць страху перад гэтай хваробай кіраваць нашым жыццём і руйнаваць яго.

Я заклікаю ўсіх рабіць кантрольныя аналізы і тэсты, пра якія казала вышэй. Калі ж дыягназ пастаўлены на позняй стадыі, то я б раіла прывесці ў парадак свае асабістыя і прафесійныя справы, сфакусавацца на плане лячэння і пастарацца заняць пазіцыю, што вы валодаеце сітуацыяй, а не наадварот.

Паколькі медыцынская навука развіваецца вельмі хутка, у ракавых пацыентаў ужо зараз значна больш шансаў жыць жыццём максімальна набліжаным да нармальнага. Калі трымаеш у галаве такі падыход да праблемы, то пачынаеш пачувацца больш упэўнена!

***— Ці існуе такая рэч, як прафілактыка раку? Што чалавек можа зрабіць, каб знізіць рызыкі захварэць на рак? Ці адыгрывае тут ролю модны зараз здаровы лад жыцця?***

— Некаторыя віды раку паддаюцца прафілактыцы. Звычайна гэта тыя, якія звязаны з ужо вядомымі вірусамі. Напрыклад, робіцца вакцынацыя ад віруса папіломы чалавека, каб прадухіліць рак шыйкі маткі, і ад віруса гепатыту B, каб прадухіліць рак печані.

Пакуль няма адназначных доказаў таго, што здаровае харчаванне прадухіляе рак. Аднак трэба сачыць за сваёй вагой і пазбягаць атлусцення. Вага ўплывае на агульны стан здароўя чалавека, які ўключае ў сябе і сардэчна-сасудзістую сістэму, а таму правільнае харчаванне і фізічныя нагрузкі з'яўляюцца вельмі важнымі. Зараз ужо дастаткова дадзеных, якія ўказваюць на тое, што некаторыя віды раку сапраўды звязаны з атлусценнем. Пра шкоду палення ўжо ўсе ведаюць. І кінуць паліць можа кожны. Гэта пытанне самадысцыпліны!

***— Калі чалавеку ставяць дыягназ «рак лёгкіх», што трэба рабіць, каб павялічыць шансы на паспяховае лячэнне? Ці варта заўжды спрабаваць атрымаць альтэрнатыўнае меркаванне, альбо пацыенту трэба даверыцца свайму доктару і дзейнічаць як мага хутчэй?***

— Пасля таго, як пастаўлены дыягназ на аснове біяпсіі, трэба вызначыць стадыю захворвання. Гэта робіцца з дапамогай кампутарнай тамаграфіі ці, яшчэ лепш, ПЭТ-сканавання. Калі рак знаходзіцца на ранняй стадыі, то гэта, часцей за ўсё, азначае хірургічнае ўмяшальніцтва і аперацыю, пасля якой прызначаецца хіміятэрапія ці прамянёвая тэрапія. Калі ёсць метастазы, то праводзіцца малекулярнае прафіляванне пробы біяпсіі, каб паглядзець, ці існуюць для дадзенага віду змяненняў клетак малекулярна-таргетныя прэпараты. Альбо прызначаецца імунатэрапія. Некаторыя анкалагічныя цэнтры таксама прапануюць пацыентам узяць удзел у клінічных выпрабаваннях, што азначае хуткі доступ да новых лекаў, па якіх, аднак, пакуль бракуе інфармацыі адносна іх эфектыўнасці.

Лячэнне раку — гэта падарожжа, таму ідэальна, калі паміж пацыентам і доктарам узнікае «хімія», своеасаблівая сувязь! У нашу інфармацыйную эпоху інфармацыі шмат, і яна даступная, таму я лічу, што пошук альтэрнатыўнага меркавання мае сэнс. У інтарэсах самога пацыента атрымаць не адно, а некалькі меркаванняў. Аднак калі вы ўжо вызначыліся з доктарам, то заставайцеся з ім.






## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. Новая цацка Эрдагана

Як вядома, турэцкі кіраўнік Рэджэп Таіп Эрдаган — прыхільнік Асманскай імперыі і надае вялікую ўвагу розным важным датам у гісторыі Султанату. Пару гадоў таму ён гучна адзначыў гадавіну штурму Канстанцінопаля ў 1453 годзе і баёў пад Галіполі ў часы Першай сусветнай вайны. І вось у Султана (мянушка прэзідэнта Турцыі) — новая ініцыятыва. Эрдаган прапануе пачаць адзначаць бітву, якая мела месца ў далёкім 1071 годзе каля гарадку Манцікерт, што на самым усходзе краіны. Тады туркі-сельджукі перамаглі войска Візантыі і такім чынам адкрылі сабе шлях у Малую Азію. Хаця наступствы бітвы сапраўды былі значныя, чамусьці ў Турцыі яе амаль не згадвалі. Так было да таго часу, пакуль на гэту гістарычную падзею не звярнуў увагу Эрдаган. Як следства, мінулы ўік-энд прайшоў у Турцыі пад знакам святкавання гадавіны падзей 1071 года. Практычна ўсе пагаджаюцца, што гэтыя святкаванні — чарговы этап рэвізіі рэспубліканскай спадчыны Атацюрка. Нездарма, як кажа Эрдаган, тая бітва стала рубіконам у гісторыі ісламскай рэлігіі, якую туркі з часам распаўсюдзілі на Малую Азію і Балканы. Што тычыцца гісторыкаў, дык яны шакаваныя заявамі Эрдагана — рэлігійны фактар не быў асноўным чыннікам для пераможцаў пры Манцікерце. Першае, што зрабілі пераможцы, — выправіліся ў бок заможнага па тых часах Дамаску, каб абрабаваць аднаверцаў-мусульман.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Хто замовіў ураганы?

Група навукоўцаў сцвярджае, што тарнада, якія апошнім часам атакавалі Карыбы, — не прыродная стыхія, а прадукт свядомай дзейнасці чалавека. Свае высновы яны зрабілі на базе здымкаў з космасу. Асноўны доказ, які, па іх словах, кажа пра штучны характар стыхіі — дзіўная траекторыя тых самых ураганаў. Падазрона выглядае і тое, што тры вельмі моцныя ўраганы па часе паўсталі практычна сінхронна, хаця раней такога ніколі ў гісторыі не было. А вось адказ на галоўнае пытанне — якая дзяржава або групоўка магла замовіць тыя ўраганы — навукоўцы не агучылі. У тым ліку, напэўна, таму, што стыхія атакуе краіны з рознымі дзяржаўнымі ідэалогіямі. Ад ураганаў пакутуюць як на сацыялістычнай Кубе, так і ў ЗША, дзе пануе капіталізм. Між тым, нельга не заўважыць, што апошняя серыя ўраганаў цалкам змяніла пейзаж у Вашынгтоне на карысць цяперашняга гаспадара Белага дому. Антытрампаўская апазіцыя ўжо не так жвава крытыкуе прэзідэнта, паколькі на першае месца выйшла тэма дапамогі ахвярам стыхіі.

**Паводле мексіканскай прэсы**

### РАСІЯ. Пуцін ставіць на дармаедаў?

Міністр працы РФ Максім Тапілін зноў прыгразіў расіянам «падаткам на дармаедаў». Прычым, у адрозненне ад беларускага аналагу, тое, што прапануе міністр суседняй дзяржавы, будзе больш жорсткім. Паводле Тапіліна, з тых, хто афіцыйна не працуе, плануецца браць па 25 тысяч рублёў на год (каля 400 долараў). Таксама «дармаедаў» будуць абкладаць дадатковымі паборамі на нерухомасць. Праўда, некаторыя не выключаюць, што ўсе пагрозы Тапіліна — частка піяр-кампаніі Пуціна, які раней рашуча выступіў супраць падатку. Стаўка робіцца на тое, каб спалоханыя ініцыятывай Тапіліна беспрацоўныя (а іх у Расіі каля 15 мільёнаў) прыйшлі на прэзідэнцкія выбары і дружна прагаласавалі за Пуціна. Сапраўды, інакш цяжка зразумець, нашто Тапілін робіць такія непапулярныя заявы напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі. А ўвогуле, падаецца, што падатак на расійскіх дармаедаў — справа часу. Зараз у Дзярждуме ідзе праца над законапраектам аб персаніфікаваным уліку насельніцтва, то бок, дэ-факта рэестрам гультаёў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Незалежнасці хочуць мадрыдцы

Жыхароў іспанскай сталіцы так моцна дасталі сепаратысты з Каталоніі і Краіны Баскаў, што яны таксама вырашылі выйсці са складу Іспаніі. У сеціве набірае моду ініцыятыва стварэння асобнай дзяржавы Países Madrileños (Мадрыдскія землі). Мадрыдская «Вейшнорыя», як лічаць яе бацькі-заснавальнікі, павінна ўключаць цэнтр Іспаніі плюс зону вакол партовага гораду Алекантэ, дзе знаходзіцца самы папулярны сярод мадрыдцаў курорт. Ужо створаны дызайн сцяга будучай дзяржавы, і нават высунутыя тэрытарыяльныя прэтэнзіі да суседзяў. Некаторыя аматары Países Madrileños лічаць, што неабходна захапіць, напрыклад, Севілью. Хаця ўсё выглядае як жарт, вялікая папулярнасць ідэі Países Madrileños дазваляе палітолагам казаць пра сур'ёзны падтэкст. На іх думку, ажыятаж вакол віртуальнай краіны сведчыць пра крызіс цяперашняй формулы іспанскай дзяржавы нават у вачах жыхароў метраполіі. Большасць іспанцаў ментальна гатовыя да радыкальнай адміністратыўнай рэформы — напрыклад, федэралізацыі краіны або ператварэння іспанскага каралеўства ў рэспубліку.

**Паводле іспанскай прэсы**

# Вар'яцкая Азіяда

Алег НОВІКАЎ

**Усе, хто памятае маскоўскую Алімпіяду–80, ведаюць: буйное спартовае мерапрыемства ў аўтарытарнай краіне ператвараецца ў нешта феерычнае.**

Туркменістан, дзе на гэтым тыдні стартуюць Пятыя Азіяцкія гульні ў закрытых памяшканнях і па баявых мастацтвах — так званая Азіяда — пацвердзіў гэта.

Адразу трэба абмовіцца — вар'яцтва, якое назіраецца ў Туркменістане, шмат у чым тлумачыцца тым, што права праводзіць тую Азіяду Ашхабад атрымаў у «тлустыя часы», калі цэны на газ — асноўны артыкул экспарту — былі досыць высокімі. Але прыкладна пару гадоў таму цэны на «блакітнае золата» знізіліся. Паводле дадзеных Азіяцкага банка развіцця, гэта прывяло да змяншэння росту ВУП з 11,1 працэнта ў 2012 годзе да 6,2 працэнта ў 2016-м.

У краіне, дзе з кожнага праса кажуць пра поспехі, адмова ад правядзення Азіяды відавочна пагражала падрывам аўтарытэта кіраўніка краіны Гурбангулы Бердымухамедава. Таму падрыхтоўку вырашылі працягваць, а ўсе праблемы вырашаць за кошт грамадзян. Як следства, на спаборніцтвы даваліся скідвацца ўсім. Ахвярамі добраахвотна-прымусовага збору сталі бюджэтнікі. Яны ў сярэднім пералічвалі на спорт 10–20% месячнага заробку.

Адначасова быў усталяваны штосутачны ліміт валюты, якую можна здымаць з карткі, а таксама ўведзеныя абмежаванні на атрыманне любых сродкаў наяўнымі — заробкаў, пенсій, сацыяльнай дапамогі. Урад у дадатак запрапанаваў перайсці на безнаяўны разлік і абавязаў усе гандлёвыя кропкі і аб'екты абзавесціся неабходным абсталяваннем.

Свой унёсак у гульні зрабілі (або, дакладней, зробяць) і дзеці. Новы навучальны год 2017–2018 у школах Ашхабада пачаўся 1 ліпеня, а першая чвэрць скончылася ў канцы жніўня. Цяпер у школьнікаў фармальна — месяц вакацый, але адпачываць ім наўрад ці давядзецца: навучэнцаў малодшых класаў адправяць на масоўку, а старэйшыя вучні будуць валанцёрамі Азіяды. Наступная чвэрць у школах пачнецца 1 кастрычніка.

Зрэшты, усё гэта дробязі на фоне праблем жыхароў кварталаў, дзе вырашылі ўзвесці спартыўныя аб'екты. Каб пабудаваць інфраструктуру, давялося знесці каля дзесяці тысяч прыватных дамоў. Для правядзення спартыўных спаборніцтваў у Ашхабадзе пабудаваны алімпійскі комплекс коштам 5 мільярдаў долараў ЗША і новы міжнародны аэрапорт коштам 2 мільярды долараў.


Фота www.tdh.gov.tm

**Туркменскія ўлады робяць на час гульняў «вітрыну для турыстаў». Але каскад непапулярных захадаў стварыў беспрэцэдэнтную рэвалюцыйную атмасферу**

Мясцовым на шматлікія турыстычныя аб'екты ўваход забаранілі. Прычына простая — у гандлёвых цэнтрах ёсць поўны асартымент тавараў, якіх няма ў звычайных крамах. У тым ліку алкагольныя напоі і цыгарэты па 3 долары за пачак (пасля фактычнай забароны на продаж цыгарэт, пачак высакаякаснага тытуню каштуе ў краіне прыкладна 18–20 долараў). Акрамя таго, для гасцей сталіцы ладзяць асобныя вечарыны, на якіх можна танчыць аж да 4–5 гадзін раніцы. Мясцовыя начныя клубы павінны зачыніцца а 23-й гадзіне вечара.

Дарэчы, і без наступстваў эканамічнага крызісу гульні наўрад ці абышліся б без незвычайных кур'ёзаў. Туркменістан — вельмі аўтарытарная краіна. Таму захады дзеля бяспекі зашкальваюць. У канцы жніўня з Ашхабада ў рэгіёны Туркменістана паступілі спісы асобаў, якія патрабуюць пільнай увагі з боку сілавых структур. Фігурантамі спісаў былі людзі, якія мелі судзімасці, стаяць на ўліку ў паліцыі як дэбашыры, алкаголікі, наркаманы. У спіс патэнцыйна небяспечных трапілі ўсе, хто стаіць на ўліку ў мясцовых псіхіятрычных дыспансерах. Для страхоўкі ў тыя ж спісы былі ўключаны і іх сваякі.

Усіх абавязалі прыйсці ў паліцэйскія ўчасткі, дзе іх павінны сфатаграфаваць, — і там яны падпішуць нейкі дакумент. Паведамлялася, што асобам, якія мелі судзімасць, забаранілі наведваць спартыўныя мерапрыемствы.

Досыць незвычайным выглядае і рэжым у Ашхабадзе на час правядзення Азіяды. У сталіцу забаранілі ўезд аўтамабіляў з правінцыі. Цяпер правінцыялам даводзіцца пакідаць свае аўто з іншагароднімі нумарамі на стаянцы пры ўездзе ў горад. Таксама па Ашхабадзе забаронена перамяшчацца на старых аўтамабілях, таму на штрафпляцоўках — сотні старых «Жыгулёў». У межах падрыхтоўкі да Азіяцкіх гульняў паліцыя выпраўляе з горада «кепска апранутых» людзей, якія маглі б падмачыць імідж сталіцы.

Як бачна, туркменскія ўлады робяць усё, каб стварыць на час гульняў «вітрыну для турыстаў». Аднак усе гэтыя намаганні могуць мець незвычайны вынік. Як пішуць туркменскія апазіцыйныя сайты, каскад непапулярных захадаў стварыў у краіне беспрэцэдэнтную рэвалюцыйную атмасферу, якой не было за ўсе часы існавання дыктатуры. У гэтым кантэксце ад Азіяды можна чакаць самых розных сюрпрызаў.



# Дзяжурны апакаліпсіс

Алег НОВІКАЎ

**Ядзерныя выпрабаванні КНДР, ураганы ў Злучаных Штатах, пажары ў Аўстраліі, выбухі на Сонцы. Гэтыя катастрофы выклікалі ў масавай свядомасці думку пра тое, што распачаўся канец свету.**

Самае цікавае, што раней мы ўжо неаднаразова былі сведкамі «канцоў свету». На пачатку 1990-х пра хуткі апакаліпсіс шмат распавядалі адэпты дэструктыўнай секты «Белае братэрства», якая дзейнічала на постсавецкай прасторы. Называлася белымі братамі і дакладная дата Армагедону.

Канец свету, прыдуманы ўкраінскім «Белым братэрствам», павінен быў здарыцца 24 лістапада 1993 года. У выніку адбыўся не канец свету, а сапраўдны фарс. Лідараў секты, якія напярэдадні 24 лістапада паспрабавалі захапіць Сафійскі сабор у Кіеве, чакаў спецназ. Усіх братоў арыштавалі. Праз нейкі час правадырам братэрства далі па 4–6 гадоў турмы — і на гэтым тэма апакаліпсісу ў 1993-м закрылася.

Другая хваля прагназавання Армагедону прыходзіцца на мяжу стагоддзяў. Напярэдадні Міленіуму некаторыя чакалі смяротнага астэроіда, як напісана ў Настрадамуса, аднак той чамусьці так і не прыляцеў. Не забыліся і прагнозы тых, хто ў 1999-м палохаў жудаснымі наступствамі, якія маглі ўзнікнуць з-за таго, што кампутары няправільна зразумеюць дату 01-01-00. Ну і, нарэшце, як не згадаць 2012 год. Падаецца, толькі ўчора некаторыя з нас баяліся, што ў снежні здарыцца глабальны катаклізм праз заканчэнне календару старажытных індзейцаў майя.

Нягледзячы на тое, што ўсе папярэднія абяцанкі апакаліпсісу аказаліся пшыкам, сёння фармуецца новая армія аматараў канца свету. Праўда, да нас мода на эсхаталагічную істэрыку яшчэ не дакацілася. Пакуль асноўныя кадры яна чэрпае на Захадзе, і перш за ўсё ў Злучаных Штатах, дзе вялікі ўплыў на грамадства аказалі маштабы ўраганаў Harvey, Paul, Sandra і, нарэшце, Irma, якія абрынуліся на Поўдзень. Дадайце яшчэ самы вялікі за апошняе стагоддзе землятрус у суседняй Мексіцы сілай 8,4 бала. Адсюль і істэрычная рэакцыя часткі грамадства.

Тэма Армагедона хутка набыла біблейскі фундамент. Як правіла, спасылаюцца на пасаж з Евангелля ад Лукі: «І будуць знаменні на сонцы, і месяцы, і зорках, а на зямлі туга народаў у роспачы ад шуму марскога і хвалявання; і людзі будуць мярцвець ад страху і чакання таго, што надыходзіць на сусвет, бо сілы нябесныя зрушацца». «Хіба не тое самае, што напісана ў святых тэкстах, мы зараз назіраем?» — запытваюцца рэлігійныя амерыканцы.

**Можна прагназаваць, што цяперашні псіхоз наконт хуткага апакаліпсісу будзе цягнуцца да пачатку фазы палітычнай і эканамічнай стабілізацыі. Праўда, калі яна пачнецца, незразумела. Але ажыятаж можа мець і палітычныя наступствы**

Натуральна, высоўваюцца версіі пра тое, што катаклізмы — не выпадак, а пакаранне за кепскія ўчынкі людзей. Прычыны катастрофаў шукаюць у самых незвычайных з'явах, аж да таго, што каталікі абралі на пасаду Папы Рымскага чалавека, які не асуджае аднаполыя шлюбы. Яшчэ далей пайшлі ў Вялікабрытаніі, дзе прычынай канца свету некаторыя лічаць Brexit.

Называюцца і канкрэтныя даты, калі ўсім і ўсяму на планеце павінен наступіць татальны капут. Гэта пятніца, 23 верасня. Аднак у тую дату не верацць нават тыя, хто ўсур'ёз рыхтуецца да планетарнай катастрофы. Справа ў тым, што больш за ўсё з 23 верасня носіцца Дэвід Міч. Той самы, які ў жніўні абяцаў канец свету 21 жніўня, калі на тэрыторыі Злучаных Штатаў мела месца поўнае сонечнае зацьменне.

Трэба сказаць, што пакуль тэму апакаліпсісу прасоўвае ў асноўным заходняя жоўтая прэса. Больш-менш сур'ёзная журналістыка на гэта звяртае мала ўвагі. Тым не менш, некаторыя публікацыі ўжо з'явіліся. Іх аўтары часцяком звязваюць выбух эсхаталагічных настрояў з агульнай палітычнай нестабільнасцю ў свеце, якая выклікае адпаведныя неўрозы.

А вось выданне «USA Today» згадала тэорыю, якую ў 2016 годзе агучыла псіхолаг Ангела Рускін. Паводле яе, існуе наўпростая сувязь паміж стрэсам (яго прычынай у тым ліку могуць быць навіны пра бясконцыя стыхійныя катаклізмы) і ростам даверу да розных містыфікацый.

«Стрэсавыя сітуацыі спрыяюць таму, што людзі менш аналітычна ставяцца да таго, што адбываецца. Індывід, які адчувае стрэс, можа пачаць разумець свет нейкім арыгінальным чынам. Аж да таго, што чалавек пачынае бачыць нейкія карціны, якія не існуюць», — піша выданне.

Такім чынам, можна прагназаваць, што цяперашні псіхоз наконт хуткага апакаліпсісу будзе цягнуцца да пачатку фазы палітычнай і эканамічнай стабілізацыі ў свеце. Праўда, калі яна пачнецца, незразумела. У любым выпадку, у грамадскай калектыўнай свядомасці нейкія наступствы цяперашні ажыятаж вакол канца свету можа пакінуць. Нямецкая «Der Freitag» піша, што тэма канца свету здольная абудзіць у еўрапейскім грамадстве інтарэс да рэлігіі, што ў перспектыве можа ўзмацніць кансерватыўныя палітычныя лагер.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аўн Сан Су Чжы



Прэм'ер-міністр М'янмы, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру, якую яна атрымала як дысідэнт-дэмакрат у часы вайсковай дыктатуры, рызыкуе быць абвешчанай арганізатаркай злачынстваў супраць чалавецтва.

Усё праз вельмі незразумелую пазіцыю кіраўніцы ўраду адносна пераследу народнасці рахінджа. Будысцкія нацыяналісты актыўна вынішчаюць рахінджа за іх прыналежнасць да ісламу. Статыстыка забойстваў ідзе на сотні, а колькасць уцекачоў — на дзясяткі тысяч, што дазволіла «Amnesty International» ацаніць сітуацыю ў краіне як злачынства супраць чалавецтва. Што тычыцца кіраўніка ўраду, то яна чамусьці адмаўляецца несці адказнасць за сітуацыю, паколькі, па яе словах, новы ўрад кіруе краінай толькі 18 месяцаў.

Абыякавае стаўленне Аўн Сан Су Чжы да трагедыі рахінджа справакавала раз'юшаную рэакцыю сусветнай грамадскасці. На сайце change.org, дзе выкладаюцца інтэрнэт-петыцыі, прыкладна 400 тысяч чалавек падпісаліся пад патрабаваннем забраць у яе Нобелеўскі дыплом. У сваю чаргу, Нобелеўскі інстытут заявіў, што няма прававых механізмаў, каб пазбавіць Нобелеўскага лаўрэата гэтага статусу. Адзінае, што зрабілі ў Нобелеўскім інстытуце, — накіравалі ліст у Найп'іда (сталіцу М'янмы) з просьбай зрабіць нейкія крокі.

Напрыканцы варта ўзгадаць версію, паводле якой Аўн Сан Су Чжы не адыгрывае ніякай ролі ў кіраўніцтве краіны. Па сутнасці, уся ўлада знаходзіцца ў руках у генералаў, якія ў свой час прыдумалі дзеля адмены міжнародных санкцый зрабіць дэмакрата фармальным кіраўніком ураду.

### Дзмітрый Гучкоў



Адзін з лідараў расійскай ліберальнай партыі «Яблоко» стаў новай надзеяй расійскай дэмакратыі пасля таго, як сфармаваная ім шырокая кааліцыя «Аб'яднаныя дэмакраты» нечакана для ўсіх аказалася другой на муніцыпальных выбарах у Маскве 10 верасня.

Па выніках выбараў дэпутаты ад аб'яднанай апазіцыі будуць працаваць у 62 з 146 раёнах Масквы. У 17 муніцыпальных саветах дэмакраты складуць большасць. Нарэшце, у трох раёнах у цэнтры Масквы наогул не будзе дэпутатаў ад «Адзінай Расіі».

Шмат палітолагаў лічаць, што гэтым фантастычным лічбам дэмакраты абавязаны, хутчэй, непапулярнаму мэру Масквы Сяргею Сабяніну. Праз гэта выбары насілі характар рэферэндуму адносна палітыкі мэры. Так ці інакш, напярэдадні выбараў прэзідэнта Расіі «Яблоко» вяртае сабе статус вядучай антыпуцінскай партыі, а яе лідар Яўлінскі — шанцы стаць агульным дэмакратычным кандыдатам. Гудкова, у сваю чаргу, называюць фаварытам на выбарах маскоўскага бургамістра ў наступную восень.

Поспех «гудкоўцаў» пасунуў на другі план фігуру Аляксея Навальнага. У сувязі з гэтым не выключаюць і канфлікту ўнутры дэмакратаў. Магчыма, Навальны цяпер будзе намагацца перахапіць лідарства. На гэты ўік-энд запланаваны яго мітынг у Екацярынбургу.

### Чэм Аздэмір



Калі верыць нямецкай прэсе, менавіта партыю Чэма Аздэміра (ён лідар нямецкіх «Зялёных») Меркель збіраецца запрасіць у свой новы кабінет, які павінен быць сфармаваны па выніках парламенцкіх выбараў 24 верасня.

Гэты пакт будзе падобны на сенсацыю, бо экологі традыцыйна выступалі як паслядоўная партыя — антыпод кансерватараў. На працягу ўсёй сваёй 35-гадовай гісторыі «Зялёныя» стала крытыкавалі Саюз хрысціянскіх дэмакратаў (CDU) за лабізм АЭС, аўтарытарызм, клерыкалізм, мілітарызм і гэтак далей. І вось цяпер Меркель гатовая даць апанентам партфелі міністраў.

З іншага боку, выбар на карысць «Зялёных» выглядае цалкам лагічным у цяперашніх умовах. Сацыял-дэмакраты, якія з 2005-га тройчы былі малодшымі партнёрамі Меркель, свядома збіраюцца ў апазіцыю, каб узняць сваю суб'ектнасць у нямецкай палітыцы. Акрамя таго, унутры «Зялёных» за апошнія часы адбыліся сур'ёзныя метамарфозы. Сёння партыяй кіруюць людзі, якія паводле поглядаў, хутчэй, умераныя лібералы, чым левыя экстрэмісты, якія стаялі ля вытокаў партыі.

Праўда, дасюль не зразумела, як паставіцца да партнёрства з «Зялёнымі» кансерватыўны партыйны базіс. Хаця прыклады супрацоўніцтва кансерватараў з «зялёнымі» на месцах маюць месца, сярэднестатыстычны выбаршчык CDU шарахаецца ад эколагаў, якія дэманстратыўна падтрымліваюць сексуальныя меншасці і эмігрантаў.

# Паміж крыміналам і палітыкай

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Важную ролю ў жыцці Заходняй Беларусі адыгрывала польская Дзяржаўная паліцыя. У яе задачы ўваходзіла не толькі барацьба з крыміналам, але і кантроль за дзейнасцю палітычных арганізацый апазіцыйнага кшталту, і асабліва — супрацьстаянне распаўсюду камуністычнага руху.**

## Ад палітыкі да барацьбы са шпіёнамі

Яшчэ падчас польска-бальшавіцкай вайны ў 1919 годзе міністр унутраных спраў Другой Рэчы Паспалітай выдаў распараджэнне аб стварэнні Навагрудскай і Палескай акруговых камендатур паліцыі. Галоўнымі задачамі польскіх паліцэйскіх была падтрымка бяспекі, спакою і публічнага парадку на падкантрольных тэрыторыях. Структура даваеннай паліцыі складалася з Галоўнай камендатуры ў Варшаве, на чале якой, зразумела, стаяў галоўны камендант. Яму былі падначаленыя ваяводскія камендатуры, а тым — паватовыя. Ніжэй знаходзіліся камісарыяты (у буйных гарадах) і пастарункі (у вёсках, невялікіх мястэчках, на чыгуначных станцыях).

Палітычнымі справамі на тэрыторыі Заходняй Беларусі займаўся аддзел IVD. У Навагрудскім павеце яго прадстаўніцтва з'явілася ўжо ў красавіку 1921 года. Гэтая структура павінна была праводзіць інфармацыйна-выведвальную і следчую дзейнасць дзеля таго, каб прадухіліць антыдзяржаўныя выступленні. У яе склад уваходзілі тры аддзелы: інфармацыйна-справаздачны, рэгістрацыйна-следчы і адміністратыўны.

Аддзел IVD меў цэлы штат агентаў. Паступова ў яго абавязкі ўвайшла справа контрвыведкі. У гэтым сэнсе вялікая ўвага надавалася дзейнасці савецкай агентуры. У 1923 годзе ў паўночна-ўсходніх ваяводствах Польшчы дзейнічала 3 аддзяленні IVD. У Брэсце-на-Бугу аддзел узначальваў аспірант (падпаручнік) Чэслаў Нестаровіч, у Навагрудку — камісар (капітан) Леанард Залуска, у Вільні — камісар Міхал Алендзкі. У тым жа годзе была створана Інфармацыйная служба, якая прыняла справы ў аддзелу IVD. Яна вывучала антыдзяржаўную дзейнасць, накіраваную на падрыў тэрытарыяльнай цэласнасці польскай дзяржавы: збірала інфармацыю пра настроі насельніцтва і сітуацыю ў рэгіёне, на падставе чаго потым рабіліся справаздачы. Часамі паліцыянты перадавалі дадзеныя калегам з Другога аддзелу Генштаба Войска Польскага (выведкі).

У чэрвені 1924 года замест Інфармацыйнай службы была створана Палітычная паліцыя. У яе задачу ўваходзіў усё той жа маніторынг жыцця ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай і выкрыццё арганізацый і груп, чыя дзейнасць магла нанесці шкоду дзяржаве. «Канфідэнтамі», ці агентамі паліцыі, станавіліся прадстаўнікі розных сацыяльных груп: гараджане, сяляне, дзеячы палітычных партый і арганізацый. Праца «саксатаў» аплачвалася з бюджэту ваяводства.

Самі супрацоўнікі паліцыі на пачатку рэдка ажыццяўлялі працу «на месцах». Справа была ў тым, што большасць з іх не валодала беларускай і іншымі мясцовымі мовамі, і жыхары Заходняй Беларусі адразу выкрывалі агента. Аддзяленні гэтага органа існавалі ў Свянцянах, Дуніловічах, Глыбокім, Вілейцы, Нясвіжы, Стоўбцах, Століне, Лунінцу і Сарнах.

У 1924 годзе ўсходнія межы Другой Рэчы Паспалітай узялі пад ахову падраздзяленні Корпуса аховы памежжа, і значную частку выведвальнай працы паліцыя перадала гэтай структуры. Пры гэтым у задачу Палітычнай паліцыі ўваходзіў збор інфармацыі пра настроі насельніцтва ўсходніх ваяводстваў, частку якой перадавалі ў распараджэнне выведкі КАП. Дзякуючы гэтаму ў 1930 годзе на тэрыторыі Маладзечанскага павета выкрылі некалькі савецкіх шпіёнаў.

Асаблівая ўвага звярталася на дзейнасць чальцоў Кампартыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), якая імкнулася выклікаць на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў «рэвалюцыйную сітуацыю». Так, у пачатку 1930-х гадоў супрацоўнікі польскай паліцыі правялі шэраг аперацый па затрыманні чальцоў гэтай партыі. Тады ў іх рукі, сярод іншых, трапілі сакратар Пінскага акружнога камітэта КПЗБ Праскоўя Дзмітрук (была прысуджаная да 6 гадоў турэмнага зняволення), чалец КПЗБ Абрам Гендлер, якога абвінавацілі ў супрацоўніцтве з савецкай выведкай, і Фейга Мельман, якую абвінавацілі ў антыдзяржаўнай дзейнасці і прысудзілі да 7 гадоў турэмнага зняволення.

## Ворагі крымінальнага свету

Другой найважнейшай задачай польскай Дзяржаўнай паліцыі ва ўсходніх ваяводствах была барацьба з крымінальнымі злачынствамі. Дзеля гэтага пры акруговых камендатурах ствараліся следчыя аддзелы. У Палескім ваяводстве такія існавалі ў Брэсце, Пінску і Лунінцы. У Навагрудскім ваяводстве — у Навагрудку і Баранавічах. У Віленскім — у Вільні і Глыбокім. Пазней былі створаны следчыя аддзелы ў Вілейцы і Свянцянах. Варта адзначыць, што гэтыя структуры паліцыі займаліся не толькі расследаваннем злачынстваў, але і аналітычнай працай.

У 1926 годзе Палітычная паліцыя была ліквідавана, а яе функцыі перайшлі следчым Дзяржаўнай паліцыі. Праз год адбылася новая рэформа: у кожнай ваяводскай камендатуры быў створаны следчы дэпартамент, а ў Брэсце, Пінску, Навагрудку, Баранавічах, Маладзечне, Глыбокім і Слоніме — следчыя аддзелы. У 1935 годзе следчы аддзел паліцыі быў створаны ў Лідзе.

Асноўнымі групамі злачынстваў, якімі займаліся польскія даваенныя следчыя, былі крадзяжы, злачынныя напады, фальшываманецтва і палітычныя злачынствы. Следчыя актыўна працавалі сярод насельніцтва Заходняй Беларусі і вывучалі як крымінальны свет, так і палітычнае падполле. Безумоўна, следчыя аддзелы Дзяржаўнай паліцыі мелі шырокую сетку канфідэнтаў і інфарматараў. Да сённяшняга дня захаваліся слоўнікі блатнога жаргону, якія былі створаны польскімі паліцэйскімі ў міжваенны час на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў. Дарэчы, пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР гэтай дакументацыяй актыўна карысталіся супрацоўнікі савецкага НКУС і міліцыі.

Польскі паліцыянт

## Праца «ў тэрэне»

Самую простую патрульную працу выконвалі звычайныя паліцэйскія, ці «мундуровыя», як іх называлі звычайныя грамадзяне. Іх служба праходзіла ў паліцэйскім пастарунку. Гэтыя людзі займаліся расследаваннем дробных злачынстваў, самазабойствамі, абортамі, вулічнымі нападамі з мэтай крадзяжу і іншымі менш важнымі злачыннымі праявамі. Паліцыянты патрулявалі мясцовасці, якія дзяліліся на «абыходы» (раёны). Цікавы прыклад: у 1927 годзе паліцыянт Маляўка з Віленшчыны атрымаў ад Міністэрства фінансаў Польшчы прэмію ў 500 злотых за тое, што ўласнаручна затрымаў банду фальшывамацетчыкаў. Пры гэтым было канфіскавана фальшывак на суму больш за 40 тысяч злотых. Не менш цікавым быў «кейс» упраўляючага маёнткам князя Пшэздзецкага ў Варапаеве Аляксандра Вардэнскага. Той на працягу 6 гадоў (з 1924 па 1930 гады прысабечыў больш за 700 тысяч злотых. Паліцыя выкрыла махінацыю — і хутка справа пайшла ў суд.

У сярэдзіне 1920-х у Вільні быў створаны водны камісарыят польскай Дзяржаўнай паліцыі, які пільнаваў выкананне законнасці на берагах Віліі. У 1923 годзе пачалі стварацца вучэбныя адзінкі паліцэйскага рэзерву, што было звязана з цяжкай унутрыпалітычнай сітуацыяй у рэгіёне і актывізацыяй дзейнасці прабальшавіцкіх элементаў. Адна з такіх частак размяшчалася ў Палескім ваяводстве. У пачатку 1930-х гадоў паліцэйскі рэзерв быў распушчаны, аднак ужо ў 1936 годзе дэкрэтам польскага прэзідэнта аднаўлены. У 1937 годзе рэзервісты паліцыі ўдзельнічалі ў разгоне антыгабрэйскіх выступленняў у Брэсце.

Дарэчы, на ўзбраенні гэтых «мабільных» адзінак паліцыі былі рэдкія тады ўзоры аўтаматычнай зброі: фінскі пісталет-кулямёт «Суомі» і амерыканскі «Томпсан». Звычайная паліцыя была ўзброеная рознымі відамі стралковай зброі: французскія вінтоўкі «Лебель», нямецкія «Маўзеры» ўзору 1898 года і польскія — узору 1929-га, рускія «Мосіна», аўстрыйскія «Манліхеры» і іншыя. З пісталетаў і рэвальвераў самымі распаўсюджанымі былі рэвальверы «Наган» (рускі і польскі ўзору 1930 года), французскі «Лебель», нямецкі пісталет «Парабелум», аўстрыйскі «Штоер», бельгійскі «Браўнінг». Нарэшце, польскія даваенныя паліцэйскія былі ўзброеныя рознымі відамі кулямётаў, сярод якіх варта ўзгадаць рускі «Максім», французскі «Гочкіс», аўстрыйскі «Шварцлозэ», французскі «Шаша», амерыканскі «Льюіс» і іншыя.

У верасні 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Супрацоўнікі польскай Дзяржаўнай паліцыі, якія знаходзіліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі, да апошняга моманту спрабавалі выконваць свае абавязкі. Шмат з іх было забіта прасавецкі настроенымі элементамі. Іншыя, хто не паспеў эвакуявацца, трапілі ў рукі савецкіх уладаў. Увесну 1940 года каля 6 тысяч супрацоўнікаў польскай Дзяржаўнай паліцыі было расстраляна ў Медным пад Цвер'ю. Было там і шмат паліцэйскіх з былых усходніх польскіх ваяводстваў. Пэўная колькасць польскіх служкаў праваахovы ў 1940–1941 гадах знаходзілася ў турмах заходніх абласцей БССР, а таксама мінскіх турмах НКУС. Лёс значнай часткі гэтых людзей невядомы і па сёння.

Чальцы КПЗБ, якія раззбройвалі паліцыю ў верасні 1939 года

# Заходнікі і ўсходнікі

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**З польскай шляхетнасцю я пазнаёмілася ў сямнаццаць гадоў, калі мяне, старшакласніцу, маці з Янушкавічаў выправіла ў «Заходнюю» на першае ў жыцці вяселле. Чужая кампанія, чужая вёска, і жаніўся там невядома хто і з кім, а вось жа запомнілася даўняя паездка.**



Польска-савецкая мяжа ў Беларусі

Восеньскай парою, па непраходнай гразі моладзь перабіралася з адной хаты ў другую, і мясцовыя кавалеры адзін перад адным, навыперадкі, даставалі з кішэняў бялюткія хусцінкі ды кідалі дзяўчатам пад туфелькі. Я аж адхіснулася ад такой гжэчнасці! Нязвыкла было і дзіўна. За хлапечай малайцаватасцю адчувалася старажытная традыцыя, запазычаная ў шляхты.

### Мяжа

Пра Заходнюю Беларусь я чула толькі краем вуха — калі хтосьці адтуль прыязджаў ці, наадварот, ездзіў у Пуцілава, Вілейку, Даўгінава... На Лагойшчыне называлі толькі па-руску — «Западная». Да маці наведвалася знаёмая бабуля, якая ў гаворцы ўжывала слова «цёнгле». Я ведала, што яна адтуль. У школе пра блізкую былую мяжу ніхто з настаўнікаў не згадваў. Дваццаць год прайшло з часу ўз'яднання, як бы і не помнілася... Між тым дзяржаўная мяжа з Польшчай праходзіла побач: за Калачамі і Крамянцом.

Не тое што Лагойшчына ды суседні Плешчаніцкі раён (у 1962-м злучаны ў адзін) — Мінск лічыўся памежным горадам. Рыжскі мір заключылі толькі тады, калі польскія жаўнеры дайшлі да Ракава і Волмы. Так беларусам адгукнуўся няўдалы паход Чырвонай Арміі на Варшаву: яны на дваццаць гадоў апынуліся ў розных лагерах. Мяжа падзяліла родзічаў, парушыла сваяцкія і эканамічныя сувязі. Па першым часе нейкія кантакты дазваляліся. Прынамсі, на пераходы мяжы дзеля заробку пагранічнікі закрывалі вочы. У Рацькавічах ладзіліся сумесныя кірмашы для жыхароў памежжа. Ведалі заходнікі і пра Янушкавічы; недзе тут быў афіцыйны пункт пераходу.

«На заставу «Чарнічкі» любілі хадзіць дзяўчаты, бо там ладзілі танцы пад духавы аркестр. Мяжа праходзіла па рэчцы, за ёй — вёска Трасцяніца, «Западная» ўжо. Там жыла бабуліна сястра з дзецьмі. Памежнікі нам дазвалялі збірацца і размаўляць цераз вузкую рэчку», — згадвае Ніна Сталярова з вёскі Атрубак Бягомльскага раёна.

«Мамін дзед, сталяр, з Ізбішча хадзіў за кардон у заробкі. Калі свае маглі прапусціць «за так», то польскім пагранцам неслі яйкі і сала. У дзеда раслі чатыры дочкі, дык прыносіў ён звычайна паркаль і іншую матэрыю на сукенкі», — кажа Аляксандр Гарохавік.

Пра мяжу каля Заслаўя гаварылі так: «Перяскочым канаву — мы на танцах у палякаў. Пераскочаць палякі — на танцах у нас».

### «Няпольскія» палякі

Сапраўдных, этнічных палякаў па той бок мяжы было няшмат — у асноўным гэта былі асаднікі-каланісты, вайсковыя і цывільныя. Але ўсіх сваіх суайчыннікаў, што апынуліся ў буржуазнай Польшчы, «усходнікі» з цягам часу пачалі залічваць да палякаў. І не выпадкова. У далучаных рэгіёнах палітыка апалячвання праводзілася па лініі асветы, рэлігіі і культуры.

Школа перавучвала маленькіх беларусаў (навучанне вялося толькі па-польску), касцёл — дарослых. Кожны каталік аўтаматычна рабіўся «палякам», змена нацыянальнасці была часткай дзяржаўнай палітыкі. Касцёлы перадавалі польскі дух, як праваслаўная царква перадае рускі.

**Саветы агітавалі, клікалі да сябе, абяцалі рай на зямлі. Моладзь з польскага боку збягала на Усход у пошуках лепшай долі. Многія з перабежчыкаў потым зніклі. Польскія ўлады праводзілі аналагічную работу сярод насельніцтва «Крэсаў»**

У «Заходняй» існавала і дыскрымінацыя па веравызнанні. Праваслаўны настаўнік не мог стаць дырэктарам школы, як не мог праваслаўны юнак атрымаць вышэйшую адукацыю ў Варшаве. Не было для «рускіх» і кар'ернага росту на вайсковай службе. На самадзейным канцэрце спяваць і чытаць вершы дазвалялася толькі па-польску — інакш атрымаеш бізуна. Большасць з тых, хто сёння лічыць сябе палякам, і нават атрымаў «карту паляка», — гэта спольшчаныя, перапісаныя ксяндзамі нашы суайчыннікі.

Ураджэнка вёскі Мачулішчы Тамара Васілеўні успамінае, як у 1970-х гадах, едучы на бацькаўшчыну, пазнаёмілася ў аўтобусе з немаладым палякам.



**19 верасня 1939 года, горад Маладзечна. Сялянка вітае чырвонаармейцаў.** Фота ТАСС. Крыніца: inbelhist.org

З настальгіяй аглядаў ён знаёмыя з маленства краявіды: «Я тут нарадзіўся. Наша зямля тут была, польская...»

### «Шасталі туды-сюды»

У СССР існавала цэлая сетка дыверсійных школ, дзе рыхтаваліся кадры для падпольнай дзейнасці на польскай тэрыторыі. Іх мэтай была арганізацыя партызанскіх атрадаў і разнастайныя дыверсіі. Палякі ўзмацнялі сваю памежную службу, з другой паловы 1930-х рэжым аховы «рыжскай мяжы» з савецкага боку таксама стаў больш строгім. Што не перашкаджала незаконна пераходзіць мяжу ўзброеным агентам як з гэтага, так і з таго боку.

Праўдамі і няпраўдамі праз мяжу хадзілі і жыхары памежжа. У Янушкавічы з Даўгінава не раз прыходзіла сястра Міхалкі Саўрыцкага Матруна з «цаглінкамі» масла на продаж. «Пераходзілі мяжу па балоце або лесе, мянялі прадукты на соль, запалкі, крамную вопратку і ў змену таго ж стражніка вярталіся», — згадвае Міхась Конан. — Як бачым, ва ўсе часы з пагранічнікамі можна было «дамовіцца па-добраму».

Існавала распараджэнне, што мясцовыя павінны дакладаць пра незнаёмых. Школьнікі з Сакавіч мелі пачэсны абавязак рэгулярна заграбаць пагранічную паласу. Жыхары Камена па чарзе неслі начную варту. Каля Баброў памежнікі застрэлілі дзяўчыну з Лукаўца, якая спяшалася на спатканне з хлопцам — прынялі за шпіёнку. Зразумеўшы памылку, па-дзікунску закапалі і закідалі ламаччам.

Адносна парушэнняў дзяржаўнай мяжы друкаваліся лічбы статыстыкі. На перыяд з 1921 па 1935 год на савецка-польскай мяжы было затрымана «4902 шпіёны, 550 дыверсантаў і 13656 кантрабандыстаў», піша Ігар Мельнікаў. Першая з лічбаў у канцы 1930-х магла значна падрасці з дапамогай карных органаў: абвінавачванне ў шпіянажы на карысць Польшчы было тыповай з'явай. Цётка з Даўгінава належала да «кантрабандыстаў», хаця ў афіцыйную лічбу не ўвайшла.

Саветы агітавалі, клікалі да сябе, абяцалі рай на зямлі. Моладзь з польскага боку збягала на Усход у пошуках лепшай долі. Многія з перабежчыкаў потым бясследна зніклі.

Польскія ўлады праводзілі аналагічную работу сярод насельніцтва «Крэсаў», інфармуючы пра рэпрэсіі ў краіне Саветаў. Калі мы набылі сядзібу ў Валожынскім раёне, на рэштках старой пабудовы знайшлі схоўса старымі газетамі на рускай мове. Гэта было польскае антысавецкае выданне, якое трапляла ў рукі селяніна. Так што сітуацыя на польска-савецкай мяжы была напружанай.

### Прачнуцца ў СССР

У верасні 1939 года заходнікіляглі спаць у Другой Рэчы Паспалітай, а прачнуліся ў Савецкім Саюзе. Чырвоная Армія перайшла мяжу так ціха, што ніхто нічога не пачуў. «На працягу дня Саветы занялі 50 кіламетраў памежнай тэрыторыі. Яны дзейнічалі ў накірунках Глыбокае — Свянцяны, Вілейка — Ашмяны, Маладзечна — Валожын — Ліда», — піша Ігар Мельнікаў.

Рацькаўцы памятаюць, як з польскай заставы ў Мачулішчах разбіралі рэчы і выносілі мэблю. Прафесар Міхась Савіцкі ўспамінае: «Кашары ноччу згарэлі, а дзе падзеліся польскія жаўнеры, так і засталося загадкай для навакольных жыхароў». Кашарамі, або кашаркамі, называлі казармы. У Даўгінава ў былой кашары дасюль знаходзіцца бальніца.

Польскія жаўнеры практычна не аказвалі Чырвонай Арміі супраціву. Значная іх частка (у тым ліку заходнія беларусы і заходнія ўкраінцы) палегла бліз Смаленска з прастрэленымі галовамі. Была знішчана эліта нацыі: чыноўнікі, суддзі, медыкі, афіцэры рэзерву (запасу). А на абеліску ў Катыні красаваўся ілжывы надпіс: «Жертвам фашизма — польским офицерам».

У катынскім лагеры пабываў бацька настаўніцы Алы Вісловіч Аляксандр Карповіч. «Малодшых чыноў трымалі за дротам асобна. Кармілі раз на суткі: маглі пакарміць сёння зранку і заўтра ўвечар. Потым малодшы склад адпусцілі на ўсе чатыры бакі. Добра, што бацька не адзін быў, а з земляком. Неяк дабраліся яны да Будслава. Бацька апух з голаду, не мог ісці. А там на станцыі людзі з падводамі разбіралі соль. Ніхто не хацеў чужога чалавека браць на воз — тады ж солі менш пamесціцца... Адзін яўрэй зжаліўся: узяў бацьку і давёз да самага дома», — распавядае Ала Вісловіч.

### Рай для гультаёў

Насельніцтва «Заходняй» па-рознаму паставілася да рэзкай перамены ўлады. Радаваліся бяднейшыя, каму не было чаго губляць. «Наш гарманіст Рыдачка сустракаў Саветы, начапіўшы на чапяльнік чырвоную майку», — згадвае Ніна Лявончык.

«Ніякага фронту не было, усё прайшло мірна. Прыйшлі бальшавікі. Тата ўзяў мяне з сабою і павёў глядзець, як па дарозе суцэльным патокам ішлі машыны. Мы пры палякаў аўтамабіляў наогул не бачылі. Пачуцці радасці і гонару перапаўнялі кожнага. У нас у вёсцы заўсёды было вельмі цяжка з запалкамі. Тут жа завезлі іх поўнымі горамі. Усе пабеглі за імі. Да запалак кожнаму давалі кілаграм проса. Завалілі нас крупамі. Бальшавікі лічылі, што мы пад польскім прыгнётам паміралі з голаду. Вядома, гэта перабольшанне, у нас жа ўсё сваё мелася, жылі ж аднаасобна, у кожнага ўчастак», — успамінае А.І. Макрыцкая (Лушчцік) на расійскім сайце «Я помню».

Працяг будзе

# Байкі пра «славянаў»

Анатоль ХВЁДАРАЎ

**Ці ёсць увогуле славяне? Яны сапраўды існуюць, ці гэта палітычны праект? Што такое «славянская мова»? Пра гэта зараз зноў згадваюць больш і больш...**



Падставай для гэтага допісу стаў пераклад, зроблены «Новым Часам» з сайту антропогенез.ру артыкула «Як складаўся генафонд славян». Відавочна, што гэта пераказ на журналісцкі манер навуковай працы, высновы з якой зусім не такія адназначныя для адмыслоўцаў. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова паслухаць хаця б інтэрв'ю Баланоўскага, доктара біялагічных навук, аднаго з аўтараў гэтай працы. Ён кажа, што тыя народы, якіх мы называем славянамі, за выключэннем бліжэйшых суседзяў, маюць істотна адрозны генафонд. І, што асабліва важна, нейкага асобнага славянскага кампаненту ў іх няма. У той жа час адмыслоўцамі фіксуецца значнае падабенства ў мовах.

### Хто пачаў размову «па-славянску»?

Але як сфармавалася гэтае падабенства? У расійскай інфармацыйнай прасторы, да якой належым і мы, навязліва сцвярджаецца, што ў выніку актыўнага распаўсюджвання на тэрыторыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў VI–XIII стагоддзях нейкіх славянаў, якія з'явіліся невядома адкуль (раней, да VI стагоддзя, пра іх ніхто не ведаў).

Калі невядомыя ці малавядомыя — значыць, нешматлікія. Але каб нешматлікае племя ці група плямёнаў без войнаў і канфліктаў асімілявала на агромістай тэрыторыі дзясяткі іншых народаў — гэта неверагодна. Са строгіх навуковых дый з любых іншых пазіцыяў — абсурд. Больш за тое, такое немагчыма нават шляхам заваявання і падпарадкавання іншых народаў, калі асіміляцыя нярэдка адбываецца гвалтоўна. Невялічкія купкі заваёўнікаў з цягам часу папросту зніклі б сярод іх.

У апошні час шэраг расійскіх гісторыкаў імкнецца падыходзіць да гэтага пытання больш абачліва, каб не выглядаць цалкам неадукаванымі. За першых славянаў яны выдаюць зараз венедаў, антаў, склавенаў і шматлікія іншыя плямёны, якія пражывалі ў розных частках Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Фактычна, тыя індаеўрапейскія плямёны, якія не падпалі пад раманізацыю і не адносіліся да германскіх плямёнаў, прыйшоўшых на еўрапейскі кантынент з поўдня Скандынавіі. Большасць з гэтых «славянскіх» плямёнаў нікуды не перамяшчаліся, а жылі на сваіх землях спрадвечна. Частка ж, разам з іншымі заваёўнікамі, сапраўды займалася нападамі, рабаваннем, захопам іншых тэрыторыяў. Але поспех іх, як правіла, быў часовы. І большасць з іх бясследна знікла (як, напрыклад, тыя ж авары). У сувязі з чым гаварыць пра нейкую славянізацыю не выпадае: хутчэй трэба казаць пра цалкам іншы працэс (асіміляцыі «славянаў» з боку цюркскіх і іншых народаў). Пра працэс, якога ўдалося пазбегнуць толькі нямногім «славянскім» плямёнам. У асноўным у глыбіннай частцы іх арэалу, які прыпадае і на Беларусь.

### Мова = палітыка

Што тычыцца значнага падабенства ў мовах, якое мы назіраем, дык яно ёсць вынікам найперш палітычных, а не асіміляцыйных працэсаў. Пра тое, як ідзе такая асіміляцыя, бачна на прыкладзе той жа Расіі, дзе якуты, ненцы, тувіны і многія іншыя за 70 гадоў сталі ўжо «рускімі». Што ж тычыцца «славянскай» асіміляцыі ў VI–XIII стагоддзях, дык такую ролю ў той час адыгрывала Візантыйская імперыя, на тэрыторыях, дзе распаўсюджваўся яе ўплыў. Але працэс гэты ішоў зусім інакш, чым у Расіі ці іншых сучасных дзяржавах, дзе адзіная мова, культура, і нават сексуальныя захапленні навязваюцца зверху. У часы Візантыі гэта было немагчыма.

У тыя часы ішоў істотна іншы працэс — працэс адаптацыі Візантыйскай культуры, мовы, веры да культуры, мовы, вераванняў іншых народаў, што і фармавала іх агульную супольнасць. Адначасна на тэрыторыях, якія знаходзіліся пад уплывам Візантыі, фармавалася і пэўная наддыялектная мова як мова зносін паміж народамі (мова кайнэ). Усё гэта і іншае і фармавала новае падабенства моваў, якія ўжо разыходзіліся. Тое ж, што актыўная славянізацыя (набыццё агульных «славянскіх» рысаў) адбывалася менавіта ў часы Візантыі, з'яўляецца найбольш яскравым пацверджаннем такога тыпу «славянізацыі». Падобныя працэсы адбываліся і ў Заходняй Еўропе, дзе ў якасці палітычнага цэнтру захаваўся Рым, з істотна іншай мовай і культурай.

**Невыпадкова, што месца ўзнікнення міфічнай протаславянскай народнасці, як і протаславянскай мовы, не вызначана. Ідэалагічныя байкі пра «славянізацыю» не маюць ніякага гістарычнага грунту**

### Невядома хто невядома адкуль

Што тычыцца сапраўднага паходжання славянскіх моваў, як і заходнееўрапейскіх, то сапраўдным коранем іх з'яўляецца, відавочна, мова індаеўрапейскіх плямёнаў, што прыйшлі сюды з вельмі глыбокай старажытнасці. З цягам часу іх мова распалася на асобныя дыялекты. У той жа час, па меры развіцця еўрапейскай супольнасці народаў, узнікнення на абшарах Еўропы вялізных імперый, палітычных саюзаў, пашырэння працэсаў камунікацыі паміж народамі і іншае, шлі і адваротныя, інтэграцыйныя працэсы. Хаця заставаліся і непераадольныя бар'еры, што і стварылі, урэшце, дзве цывілізацыі ў Еўропе — усходнееўрапейскую і заходнееўрапейскую.

Усходнееўрапейская цывілізацыя, як ускраінная, а таму і больш архаічная, захавала ў сабе найбольш элементаў мінулай індаеўрапейскай культуры, што і дазваляе розным маніпулятарам ад гісторыі гаварыць пра нейкіх славянаў (чытай, рускіх), якія пражывалі на тэрыторыі ледзь не ўсёй Еўропы.

Зважаючы на гэта, невыпадкова, што месца ўзнікнення міфічнай протаславянскай народнасці, як і міфічнай протаславянскай мовы, да гэтага часу не вызначана. Як не вызначана гэта і для заходнееўрапейскай сям'і народаў. А таму ідэалагічныя байкі пра «славянізацыю» не маюць пад сабой ніякага гістарычнага грунту.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №871

Падпісана да друку 15.09.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.